# ПОМСТА

Шэрая раніца. Туман. Ісці ў школу не хацелася. Калі і каму хочацца ісці ў школу? Такіх не ведаю.

Я ішоў уздоўж драцяной агароджы дзіцячага садка і думаў, што адсяджу першыя ўрокі і ўцяку.

Маё меца ў класе за другой партай, што ў сярэднім з трох шэрагаў. Побач сядзіць Света. Яна добра вучыцца, як і я — без траякоў. У пятым класе хлопчык яшчэ павінен сядзець з дзяўчынкай, завядзёнка. У шостым можна хлопцу сядзець з хлопцам, а ў пятым даводзіцца сядзець з абсыпанай рабаціннем Светай. У шостым я буду сядзець з Валікам. Мы дамовіліся. На перапынку я прапаную Валіку разам уцячы са школы. Хацеў яшчэ перад урокамі прапанаваць уцёкі, але ён спазніўся. Аўтобус, які вёз школьнікаў

з вёскі ў горад, затрымаўся, і вяскоўцы паспазняліся.

Першым урокам стаяла гісторыя. Выкладаў яе завуч старэйшых класаў. Урокі завуча лепей не прагульваць. Зразумела. Другім урокам была арыфметыка з чарговай кантрольнай. Кантрольную варта напісаць. Спевы, мову і батаніку я вырашыў прагуляць.

На перапынку я сказаў Валіку:

— Пасля арыфметыкі ўцячом. Проста ўцячом, нават у медпункт заходзіць не будзем. Аднаму яшчэ можна выпрасіць даведку, адразу дваім яны даведку не дадуць.

— Куды пойдзем? — пацікавіўся Валік.

— Можна ў кіно, можна ў горадзе пагуляць…

— Гуляць халодна, туман. Падобна на тое, што дождж пойдзе. Лепей адразу ў кіно.

— З партфелямі ў кіно не пусцяць…

Такая рэальнасць: усе кінатэатры атрымалі загад не прапусцаць у залу

школьнікаў з партфелямі. Калі ты з партфелем кіруешся ў кіно, значыць — прагульшчык.

— Партфелі схаваем.

— Дзе ты думаеш хаваць партфелі? — у пытанні Валіка чуецца трывога.

— Пад мостам…

Пасля кантрольнай мы выбеглі са школы ў туман. Уцякаць са школы трэба хутка, каб адбегчыся як далей і не сустрэць на дарозе каго з настаўнікаў. Калі будзеш таптацца каля школы, дык абавязкова наляціш на якога географа ці фізкультурніка. Сустрэнеш школьнага ваўкалака і пачуеш:

— Прагульваем?

Давядзецца нешта выдумляць і хлусіць. Ілгаць не люблю. Таму мы хутка бяжым ад школы да вінзавода. Пад завадскім плотам адпачываем, пераводзім дых і далей павольна ідзём да моста.

Мост вялікі, пад ім ляжыць ажно шэсць чыгуначных дарог. Каля самога моста

стаіць белы дамок чыгуначнікаў. За дамком пачынаецца высозны турэмны плот. Пад мостам, у бетоннай нішы мы пакідаем партфелі. Засоўваем іх як найглыбей, каб выпадковы мінак не заўважыў.

У кінатэатры «Беларусь» дзве залі. Там заўсёды можна набыць квіткі. Недаверлівая кантралёрка рве нашы квіткі і пытаецца:

— Вы, часам, школу не прагульваеце?

— Не! Мы на другую змену ходзім. У нас нават гальштукаў няма, — упэўнена кажу хітрай кантралёрцы.

Гальштукі мы знялі яшчэ каля вінзавода і пахавалі ў патрфелі.

Кінасвет радуе. Ён шырокі, шматколерны, гераічны і не падобны да нашага вечнага халоднага, золкага і затуманенага жыцця.

З кінатэатра вяртаемся на мост. Па дарозе абмяркоўваем дасканалае майстэрства галоўнага кінагероя кідаць вялікі нож.

— Трэба нам паехаць у лес і навучыцца кідаць нож! — кажу.

— Можна ў сутарэннях вучыцца. Паставім пару шырокіх дошак і будзем кідаць у іх нож. Ехаць нікуды не трэба. У сутарэннях нож ніхто не адбярэ. У лесе могуць адабраць, — разважае Валік.

Ён з вёскі, ён бліжэй да лесу, яму можна верыць.

У нішы партфеляў няма. Мы абшукваем усе нішы пад мостам. Партфелі прапалі. Бяда. Мы маўчым. Сядзім на цэментавых плітах пад мостам, па якім з грукатам коцяцца грузавікі, і ледзь стрымліваем слёзы. Чакаем, самі не ведаем чаго.

З дамка чыгуначнікаў выходзіць рабочы з малаточкам на доўгай амаль метровай дзяржальні. Ён пастукаў малаточкам па рэйцы, так каб мы пачулі, і пачаў заклікальна махаць вольнай рукой, каб падышлі. Мы спусціліся да

чыгуначнага палатна і падбеглі да рабочага. Ён быў моцна п'яны:

— Згубілі партфелі, галадранцы? Прадынамілі школу і пагублялі партфелі? Прыносце кожны па пяць рублёў, і я вярну партфелі. Не прынясеце грошы праз дзве гадзіны, і свае партфелі больш не пабачыце! Пабеглі! Я сказаў — пабеглі, засранцы, — рабочы-чыгуначнік зарагатаў гучна і мярзотна, так у кіно рагочуць паліцаі ды крымінальнікі.

— У мяне няма пяцёркі! — заскуголіў Валік.

— Знойдзеш! У бацькі, калі што, папросіш ці ўкрадзеш. Бяжы, у цябе дзве гадзіны.

Туман крыху развеяўся, але краявіды як былі шэрымі, такімі і засталіся.

Калі мы ўзняліся на мост, пайшоў дробны дождж. Мы прыспешвалі хаду, мы нават месцамі ішлі ледзь не подбегам, але дадому я прыйшоў ушчэнт мокры. Дома нікога не было. Я пераапрануўся ў сухое. Папіў насалоджанай гарбаты. Дастаў са

схованкі грошы і пералічыў. Атрымалася тры рублі з капейкамі. На выкуп партфеля не хапала амаль два рублі. Іх я ўзяў у бацькавай шафе. Можна нават сказаць, што я скраў у свайго бацькі два рублі.

Тыя два рублі я пазней вярну. Буду збіраць і здаваць бутэлькі. Бутэлька з-пад піва — дванаццаць капеек, бутэлька з-пад малака — пятнаццаць. Дарагіх бутэлек з-пад малака на вуліцы не знойдзеш, давялося збіраць танныя — піўныя ды вінныя.

Добра, што дождж скончыўся, і добра, што Валік з'ездзіў у сваю Бараноўшчыну і пазычыў у дзеда пяцёрку. Мы вярнуліся пад дамок чыгуначнікаў у шарую гадзіну. Чыгуначнікаў у дамку было ажно чацвёра. Яны сядзелі за маленечкім сталом, засланым парудзелай газетай. Пасярод стала стаяла гарэлка, вакол яе ляжала накроенае сала, цямнеў накроены хлеб і стаялі шклянкі. Рабочыя курылі. У дамку было ажно цемнава ад дыму.

Даўгатвары рыжы рабочы з мяшкамі пад каламутнымі вачыма забраў нашы грошы. Дастаў з-пад стала партфелі і прасіпеў пракураным голасам:

— Яшчэ раз убачу вас пад мостам ці каля чыгункі — адлуплю. Прэч пайшлі, вырадкі!

Мы выскачылі з дамка, як абвараныя кіпенем. П'яны, дурны, агрэсіўны рабочы мог і сапраўды пабіць, а мог і забіць.

— Як думаеш, чаму ён хацеў нас пабіць? — спытаўся Валік, калі мы ішлі вузенькай сцежкай уздоўж турэмнага плота.

— Пазабаўляцца хацеў. Пабіць чалавека, каб паказаць сваю сілу, паказаць сваю ўладу. Мазгі ён прапіў. Казёл рыжы. Трэба яго, казла, пакараць! Давай набяром камянёў, вернемся і з моста будзем кідаць камянямі ў дамок, пакуль не паб'ем шыбы.

— Здагадаюцца, што гэта мы зрабілі. Можа, яны лазілі ў партфелі, можа, прачыталі на сшытках нашы прозвішчы,

можа нават запомнілі іх… Рызыкоўна вяртацца.

— Сёння рызыкоўна, а праз месяц, калі яны забуцца пра нашы партфелі, мы вернемся і камянямі павыбіваем ім вокны.

— Трэба думаць, — сказаў Валік, і я зразумеў, што біць вокны чыгуначнікам ён не пойдзе.

Каб як хутчэй вярнуць скрадзеныя рублі, я пару дзён басцяўся па раёне ў пошуках пустых бутэлек. Больш за ўсё я іх пазнаходзіў на старых, пазасыпаных жоўтым кляновым лісцем могілках. Раённыя п'яніцы любілі выпіваць у зацішку, паміж магіл і крыжоў. На тых могілках я знайшоў і гладкі светлы падобны да курынага яйка камень. Ён ляжаў на ўзбочыне пясчанай сцежкі, паразмыванай кастрычніцкімі дажджамі.

Той камень быў першы ў маім узбраенні. За ім быў другі і трэці. На могілках я назбіраў камянёў з дзесяць. Усе яны былі

гладкімі і падобнымі да яйка. Кідаць такія камяні — адно задавальненне. Хацелася як хутчэй пайсці на мост і адтуль абрынуць сваю назапашаную злосць на пракураны дамок чыгуначнікаў. На мост я хадзіў, але без камянёў. Я старанна распрацоўваў маршруты ўцёкаў. З моста я мушу бегчы да кінатэатра «Нёман», ад яго завулкамі ляцець на старыя могілкі, а праз іх ісці дамоў.

Перад акцыяй я вырашыў яшчэ раз пагаварыць з Валікам. Падышоў да яго на вялікім перапынку ў школьным буфеце. Валік еў залацістую ватрушку і запіваў бурштынавым кампотам.

— Пойдзеш біць шыбы ў дамку чыгуначнікаў?

— Не! Дзед сказаў, што я магу і не вяртаць пяцёрку. Які сэнс цяпер біць вокны. Дарэчы, можна папасца, і тады дзясяткай не адкупімся…

— Не хочаш — як хочаш, — я крыху памаўчаў, пачакаў, пакуль ён дап’е кампот,

і сказаў: — Я таксама адзін не пайду помсціць. Аднаму сумна…

— Правільна! Не хадзі. Пайшлі яны нафіг. Хаваць партфелі ў сарайчыку з бульбай значна лепей. Сарайчык зачыняецца. Партфелі ніхто не тыбрыць. Можа, заўтра ўцячом з апошніх урокаў і сходзім у «Беларусь»?

— Заўтра паглядзім.

У наступны дзень я сышоў з урокаў. Узяў даведку ў медпункце, што захварэў-прастудзіўся, і сышоў. Пайшоў я на возера, каб патрэніравацца ў кіданні камянёў. Я спрабаваў закінуць камень з берага на невялічкі востраў, зарослы таполямі. Востраў быў далекавата ад берага, і закінуць камень мне не ўдавалася, але кідаў я досыць далёка. На возеры я набраўся ўпэненасці, што дакіну камень з моста да дамка чыгуначнікаў і пацэлю ў шыбу. Трапнасці я вучыўся, кідаючы камень у асінавую трэску, якую пусціў па вадзе.

Дачакаўшыся цемры, я ўзышоў на мост, дастаў з кішэні камень, размахнуўся і кінуў у залаты квадрат акенца. Першы камень трапіў у сцяну. Другі камень упаў на бляшаны дах і нарабіў грукату. У дамку чыгуначнікаў адчыніліся дзверы і з іх павылазілі рабочыя. Яны гучна лаяліся і паказвалі рукамі на мост. Трэці камень пацэліў у шыбу. Тая разляцелася. Рабочыя сціхлі. Я перабег мост і пабег па адхоне ў накірунку «Нёмана». Па адхоне я бег наўскасяк, але ўсё адно адзін раз паслізнуўся на мокрай траве і крыху праехаўся на дупе. Абмінуўшы кінатэатар, я пабег цёмнымі завулкамі да зусім цёмных могілак. Там схаваўся за капліцай, сеў на мокрае апалае лісце і стаіўся. За капліцаю я сядзеў доўга, пакуль не аддыхаўся і не супакоіўся.

Дадому я вярнуўся ў добрым настроі.

— Чаго такі вясёлы? — спытаў тата.

— Я лепш за ўсіх у нашым класе кідаю гранату.

# СУПЕРАЖЫВАННІ

У мінскай мастацкай вучэльні Алена прыйшла да нас у групу на трэцім курсе. Алена Шыдлоўская — татарка са Смілавічаў, мела такія сакавітыя і такія вішнёвыя вусны, што ўсім неадкладна хацелася іх пацалаваць. Для пацалункаў Алена выбрала Алеся. Яна выбрала Алеся Лася не толькі для пацалункаў. У яго на той час была аднапакаёвая кватэрка ў шэрым дзевяціпавярховіку на вуліцы Багдановіча. Кватэрка засталася ад бабулі. На тую кватэру, акрамя Алеся, прэтэндавалі яшчэ ягоныя сёстры — рудавалосая Алена і шэравокая Ніна. Сёстры бясконца сварыліся між сабой і ў адначассе сварыліся з Алесем. Пакуль яны ўсе сварыліся, у вялікі бабулін ложак легла залатаскурая Шыдлоўская. Яна прыйшла, цалкам распранулася і залезла

пад коўдру. Алесь таксама залез пад стракатую коўдру да голай Алены. Пад той ватнай коўдраю яны праляжалі ажно тры дні. Уставалі толькі для таго, каб схадзіць у прыбіральню. Нават не елі тры дні. Дакладна ведаю, бо, акрамя Лася, у той кватэрцы жыў яшчэ і Сцёпа. Лось пусціў пажыць Сцёпу, каб сёстры пры чужым чалавеку меней сварыліся і каб самому было крышку весялей. Пасля смерці бабулі Лось моцна замаркоціўся, таму і запрасіў аднакурсніка да сябе пажыць. Сцёпа перабраўся з інтэрната ў кватэрку. Перанёс кнігі і апранахі. Эцюднік паравалок і планшэт для малявання пэратарабаніў. Толькі ён пачаў абжывацца, а тут — на табе маеш — у ложку з’явілася голая дзеўка з шырокай усмешкаю на апетытных вуснах.

Пра голую Алену Сцёпа расказаў мне.

Мы тады сядзелі ў дыетычнай сталоўцы, што на праспекце, каля крамы

«Прырода». Елі курыны булён. Сцёпа скардзіўся:

— Уяўляеш — яны ляжаць голыя пад коўдрай другі дзень… Заходжу. Яны ляжаць, пазіраюць на мяне, усміхаюцца. Даводзіцца сыходзіць. Цяпер нават не ведаю, што рабіць?

— Давай купім бутэльку віна. Прыйдзем, сядзем на кухні і пачнём піць. Ім таксама захочацца выпіць. Яны ўстануць, далучацца да нас, і мы ўсе пагаворым пра тое, як вам жыць далей.

Чамусьці я быў перакананы, што мне ўдасца спакусіць віном Ланя і Шыдлоўскую.

— Думаеш, яны ўстануць? — У Сцёпы падобнай упэўненасці не было.

— Вядома. У нас будзе віно і закускі. Трэба будзе якога печыва купіць. Яны не змогуць ляжаць і слухаць, як мы з табою выпіваем, гамонім, смяемся.

— Выглядае крыху нахабна. Мы прыходзім у чужую кватэру, сядаем за чужы стол, бярэм чужы посуд… Нахабна.

— Згодны, нахабна. Але Лось сам даў табе ключ ад кватэры. Ён сам запрасіў цябе ў яго пажыць, а цяпер ён ляжыць каля голай Шыдлоўскай, і ніхто не ведае, што будзе далей… Дарэчы, кватэра па дакументах яшчэ і не ягоная. Таму я не памылюся, калі скажу: нахабства больш у паводзінах Шыдлоўскай і Лася. Яны занялі ложак, яны займаюць кватэру і можна лічыць — выкідаюць цябе з кватэры ў інтэрнат. А ў тым інтэрнаце на тваім ложку ўжо спіць Тарас Карасік. Ты ж перадаў свой ложак Карасіку?

— Так, я саступіў ложак Карасіку-Тарасіку, бо разлічваў на гасціннасць Лася.

— Таму мой варыянт з віном добры.

З дыетычнай сталовай мы пайшлі ў «дваццатку» — краму на першым паверсе

інтэрната тэатральна-мастацкага інстытута. У «двaццатцы» мы ўзялі бутэльку «Ізабэлы». Пашанцавала. Мы разлічвалі ў лепшым варыянце на партвейн ці ў звычайным выпадку — на вермут. «Ізабэла» сярод таннага віна вылучалася тым, што мела праўдзіва вінаградны смак. На закуску мы выбралі пачак печыва «Сонейка». Мы ўжо выходзілі з крамы, калі я перадумаў, вярнуўся і вырашыў узяць яшчэ адзін пачак «Сонейка». Мы ў той час былі не проста беднымі студэнтамі. Мы былі зусім беднымі. Два пачкі таннага печыва для нас былі раскошай.

Ад «дваццаткі» да Багдановіча мы вырашылі прайсціся. Не хацелася стаяць на прыпынку і чакаць перапоўненага, шэрага ад пылу тралейбуса. Была восень, было цёпла, вечарэла, і стаяла бабіна лета. Самы час прайсціся па Мінску з бутэлькай віна ў кішэні. Прайсціся і пагаварыць

з таварышам пра вялікія справы, што нас чакаюць наперадзе.

Замест размовы пра вялікія справы мы гаварылі пра Шыдлоўскую.

— Ты не ведаеш, чаму яна пайшла ў акадэмічны адпачынак? — спытаў я ў Сцёпы.

— Каб не выключылі з вучэльні. Яна прагуляла палову лекцый. Нават на іспыты не прыходзіла. Яе пашкадавалі, дазволілі схадзіць у акадэмку і вярнуцца. Яна вярнулася і замест таго, каб сядзець на лекцыях і працаваць у майстэрні, ляжыць сабе голая ў ложку з цнатлівым Ласём.

— Нарэшце Лось страціць цнатлівасць. Шыдлоўская — выдатны варыянт, каб страціць мужчынскую цноту. Яна сакавітая, яна яркая, яна салодкая, як мёд. Яму прыемна будзе ўспамінаць, як ён страціў цноту з такой запамінальнай жанчынай.

— Ведаеш… Падумалася, што Лось можа застацца цнатлівым і пасля Шыдлоўскай. Паляжыць-паляжыць і перадумае…

— Ну ты і вычварэнец. Думаеш, можна паляжаць пад коўдрай з голай Шыдлоўскай і выпаўзці з-пад той коўдры цнатлівым? Зрэшты, калі ён праляжаў з ёй цэлы дзень і ў іх нічога не атрымалася, твой варыянт падзеяў не такі і фантастычны.

Пасля сонечнасці і духмянасці вулічнай восені, у кватэры было змрочна і задушліва. Мы прайшлі на кухню і адчынілі акно. Мы сядзелі пад адчыненым вакном і пілі «Ізабэлу» маленечкімі, з напарстак, чарачкамі. Мы пілі віно і заядалі яго печывам. Было смачна. Мы чакалі, што да нас далучацца Шыдлоўская і Лось, але яны да нас не далучыліся. Мы дапілі віно, зачынілі вакно і сышлі з кватэры.

— Заўтра пачну перавозіць рэчы ў інтэрнат, — сумным голасам сказаў Сцёпа.

— Выглядае на тое, што іншых варыянтаў у цябе і няма. Будзеш спаць валетам з Карасікам-Тарасікам!

Толькі ў гэтай гісторыі здарыўся іншы і для мяне зусім не чаканы паварот.

Пра тыя падзеі мне расказаў Лось. Мы сядзелі з ім у дыетычнай сталоўцы і елі сырнікі са смятанай. Мы елі сухаватыя сырнікі і запівалі іх салодкай гарбатай. З гарачай гарбатай кіславатыя сырнікі здаваліся нават смачнымі.

— Не чакаў я ад Сцёпы такой падляны. Не чакаў... Думаў — мы сябры, а мы і не сябры зусім. Я пусціў яго пажыць у сваю кватэру, даў яму ключ, дазволіў рэчы перанесці, дазволіў пачувацца ў маёй кватэры, як у сябе дома, а ён — скот крывазубы, азіят касавокі, зайздроснік правінцыйны... Так, я закахаўся

ў Шыдлоўскую. Можа, мне падалося, што закахаўся ў Алену. Ёй таксама падалося, што яна ў мяне закахалася. Мы ляжалі ў ложку, абдымаліся і цалаваліся. Мы думалі пра свае закаханасці, а Сцёпа ўсё зазіраў, зазіраў і зазіраў у наш пакой. Дзе ў чалавека сумленне? Ну добра, няма ў цябе сумлення, дык хоць бы прыстойнасць была. Ні сумлення, ні прыстойнасці, ні тактоўнасці — суцэльнае дурбальства ды нахабства.

Я вырашыў крыху змякчыць Ласёвы абурэнні:

— Алесь, гэта я прыдумаў выпіць бутэльку «Ізабэлы» ў тваёй кватэры. Даруй. Мне падумалася, што віно цябе з Аленай парадуе.

— Я таксама думаў, што яе парадуе салодкая дыня. Я пайшоў на кірмаш і купіў залатую дыню. Нёс праз шэры горад залатую дыню і ўяўляў, як адрэжу вялікі, падобны да маладога месяца кавалак

мядовай дыні. Як Шыдлоўская яго надкусіць, і яе чорна-сінія вочы ажно заплюшчацца ад слодычы. Як жа ж… Заплюшчыліся! Я вярнуўся ў кватэру, а на маім ложку Сцёпа любовіць Шыдлоўскую. Навакольны свет страціў усе колеры, ён для мяне сшарэў. Голы Сцёпа матрошыць голую Шыдлоўскую, з якой я тры дні праляжаў у ложку. Я праляжаў, думаючы пра каханне, а трэба было яе трахнуць. Можа, і не трэба? Як думаеш?

— Не ведаю… Я б, напэўна, не змог тры дні з ёй праляжаць. Я б яе адкаруселіў толькі таму, што падвярнулася такая магчымасць — пакаруселіць. А можа, і не каруселіў бы. Ведаеш, Лось, мне Шыдлоўская падабаецца, моцна падабаецца яе знешнасць. Як натуршчыца яна — золата! А чалавек? Ну які яна чалавек? Ты не ведаеш, чым яна наогул займаецца апошнія два гады? Вучыцца яна дакладна не вучыцца.

— Яна піша вершы…

— Вершы? Яна чытала табе свае вершы?

— Не чытала. Яна давала мне свой дзявочы альбомчык, і я сам чытаў яе вершы з таго ружова-шэрага альбомчыка.

— І як?

— Па-руску. Сентыментальна. Месцамі пошла. Мне зусім не спадабалася. Я не сказаў пра паганасць яе вершаў. Ілгаў, што вершы мяне ўразілі, што раней я такога не чытаў, што яна — талент.

— Цяпер ты, напэўна, прагоніш са сваёй кватэры Сцёпу і Шыдлоўскую?

— Ужо прагнаў, а дыню выкінуў у смеццеправод. Цяпер шкадую, што выкінуў дыню. Дыня была дарагая і смачная, а я яе спусціў праз смеццеправод. Хіба я не дурань?

Тыдні два, а можа і тры, Лось, Сцёпа і Шыдлоўская не размаўлялі між сабою і адно з адным. Замірыліся ўсе, калі на жоўтае лісце выпаў першы снег. Мы

выбеглі з майстэрні пагуляць у снежкі. Мы шпурлялі адно ў аднаго белымі камякамі. Мы радаваліся снегу. Радасць усіх нас прымірыла. Зрэшты, я ні з кім і не сварыўся. Я на колькі мог усім спачуваў. Спачуваў Ласю, які тры дні праляжаў у ложку з жанчынай і не змог развітацца з цнотай. Спачуваў Сцёпе, якога Лось прагнаў з кватэры ў інтэрнат. Спачуваў Алене Шыдлоўскай, якая хацела пісаць добрыя вершы, а ў яе атрымліваліся толькі кепскія і шэрыя. Нават Карасіку-Тарасіку, якога Сцёпа выпер з інтэрнату, я спачуваў. Праўда, свае спачуванні я трымаў пры сабе. Людзі не любяць, калі ім спачуваюць. Людзі любяць гуляць і забаўляцца з першым снегам.

Шыдлоўская напала на мяне, паваліла на зямлю і засыпала мне твар снегам. Потым я засыпаў ёй твар снегам. Мы смяяліся. Я папрасіў яе папазіраваць. Яна пагадзілася. Мы засталіся ў майстэрні на

ноч. Амаль цэлую ноч Алена прастаяла голая на стале, пакуль я яе маляваў. За адну ноч я паспеў намаляваць вялікі малюнак з аголенай Шыдлоўскай. Пакуль я маляваў, яна расказвала мне пра Лася і Сцёпу:

— Я гуляла ў парку. Збірала кляновае лісце. Назбірала вялікі букет. У парку я сустрэла Лася. Ён прапанаваў зайсці да яго. Зайшлі. Мне не захацелася ехаць у свае Смілавічы. Я распранулася і вырашыла паўгадзінкі адпачыць. Я так і сказала Ласю... Адпачну паўгадзінкі. Я заснула, а прачнуўшыся, пабачыла побач з сабою Алеся. Тры дні ён праляжаў побач са мною, ды так і не сабраўся з духам, каб развітацца з цнотай. Я не настойвала. Да Лася я была раўнадушная. Як і да Сцёпы я раўнадушная... Калі Лось пайшоў купляць дыню, у кватэры адразу з'явіўся Сцёпа. Ён, пэўна, чакаў у двары. Чакаў, калі сыдзе Лось. Чакаў і дачакаўся.

Ён папрасіў мяне заняцца сэксам неадкладна, заняцца па-хуткаму, каб мы паспелі ўсё скончыць да вяртання Лася. Я не адразу пагадзілася. Дарма. Каб я адразу пагадзілася на хуткі сэкс, мы б усё скончылі да вяртання Алеся. Мы не паспелі скончыць. Лось нас заспеў на гарачым і прагнаў з кватэры. Я на яго не крыўдую. Я не люблю крыўдаваць. Мне толькі шкада дыню, якую ён выкінуў у смеццеправод.

# ЛЁГКАЕ АЗАРЭННЕ

Купіць квіткі на канцэрт «Песняроў» было проста немагчыма. У мінскім Палацы спорту праходзіла запар дзесяць канцэртаў, і на ўсіх аншлаг. Купіць квіткі было і сапраўды цяжка, але іх можна было дастаць.

Быў такі час, калі ўсё больш-менш каштоўнае ў нас размяркоўвалі і распаўсюджвалі праз нейкія прафсаюзныя арганізацыі і праз іх так званых дзеячаў. Атрымаць права на звычайнае наведванне канцэрта ансамбля «Песняры» лічылася ўзнагародай. Ты не проста плаціў і нават пераплочваў за квіток, ты быў яшчэ і ўзнагароджаны. Нехта з нас меў права на ўзнагароду і не хацеў слухаць «Песняроў», а нехта прагнуў іх пабачыць і паслухаць, але не меў

права быць узнагароджаным. Такая сітуацыя і спараджала падпольны перапродаж і патаемную перадачу квіткоў.

Каб схадзіць на канцэрт, мне трэба было наведацца ў паліклініку, дзе працавала сяброўка маёй маці — Галіна Львоўна Кісялёва. Яна працавала ўчастковым урачом у раёне бульвара Шаўчэнкі. У тым раёне, каля возера, і стаяла маленечкая — на два паверхі — цагляная паліклініка.

Хто і як перадаў квіткі Галіне Львоўне? Я не пацікавіўся. Было нават непрыстойна задаваць падобныя пытанні. Добры чалавек даў квіткі доктарцы, а добрая доктарка давала квіткі сыну сваёй добрай сяброўкі. Так пра гэта казалася і думалася.

Уласна, я сказаў маці, што пачаў сустракацца з аднакурсніцай Аленай,

і добра было б нам разам схадзіць у які тэатр ці на які канцэрт. Маці падзялілася навіной з сяброўкамі. Адна з іх — Галіна Львоўна Кісялёва — і прапанавала звышкаштоўныя квіткі. Такім чынам я патрапіў у пастку. Цяпер я проста мусіў купіць даражэзныя квіткі, а з тымі квіткамі ў кішэні я павінен быў запрасіць Алену на канцэрт «Песняроў».

Не буду казаць, што я не любіў «Песняроў». Любіў. У мяне былі іх дзве першыя — самыя лепшыя — кружэлкі. Я іх моцна «запілаваў» слухаючы.

У паліклініку я прыйшоў з трывогай на сэрцы і цяжкім кашальком. Прыйшоў пад кабінет Галіны Львоўны і стаў у чаргу. Хвілін з дваццаць я стаяў. Потым крэсла вызвалілася, і я сеў, і сядзеў, ажно пакуль Галіна Львоўна не вызірнула з кабінета:

— Валодзя, чаму ты сядзіш? Чаму ты адразу не зазірнуў у кабінет? Я цябе даўно чакаю!

Прыйшоў. Чакаў. Трывожыўся. Сядзеў і яшчэ атрымаў вымову, бо не так чакаў і не палез без чаргі. Стрываў я несправядлівасць, бо Галіна Львоўна — аўтарытэт. У маёй сям'і да дактароў заўсёды ставіліся з вялікай павагай.

— Заходзь. Сядай...

Галіна Львоўна зачыніла кабінет на ключ.

— Ты грошы прынёс? Ты ж разумеш, што гэта не мне дзесяць рублёў за два квіткі. Гэта добрым людзям, якія дасталі гэтыя квіткі для цябе і тваёй дзяўчыны... Як яе зваць?

— Алена...

— А якое ў яе прозвішча? Майхровіч? Яна часам не з нашых дзяўчатак?

Зазвычай Галіна Львоўна не пыталася і старалася не згадваць сваё і чужое

яўрэства. Можа, інтымная абстаноўка з патаемнай перадачай квіткоў пад зачыненымі на ключ дзвярыма падштурхнула яе папытацца пра яўрэйства Алены. Мусіць, так...

— Не. Алена не з яўрэйскай сям'і. Бацькі яе Марковічы, а не Майхровічы. Яны перабраліся з вёсак у Полацк. Яна прыехала з Полацка ў мінскі інтэрнат для адораных дзяцей, але ў пашпарце і ў сапраўднасці яна паходзіць з беларусаў.

— Выбачай. Ніна так мне пра яе расказвала, што я падумала — Алена з яўрэйскай сям'і Майхровічаў. Калі хто спытаецца пра квіткі? Вядома, ніхто пра квіткі ніколі не спытаецца! Але раптам нехта чужы спытаецца... Адкуль у цябе, Валодзечка, квіткі на «Песняроў»? Скажаш, што купіў іх у касе непасрэдна ў «Палацы спорту». Адстаяў кіламетровую чаргу і набыў,

як усе набывалі. Маме перадавай прывітанне.

З лёгкім кашальком і прывітаннем для мамы я выйшаў з прапахлай таннымі лекамі паліклінікі. Калі выходжу з паліклінікі, заўсёды радуюся. Проста радуюся першаму глытку свежага паветра.

Радасць мая была кароткай. Немаведама чаму мне падалося, што Алена адмовіцца ісці на канцэрт. Я ёй прапаную, а яна возьме і скажа, што на такія канцэрты не ходзіць. Адна справа — запрасіць дзяўчыну ў кіно, а іншая — на сапраўдны канцэрт. Мне лягчэй было ўгаварыць Алену распрануцца і папазіраваць аголенай. Што я і зрабіў двойчы. Мне лягчэй было яе аголеную ўгаварыць заняцца сэксам у інстытуцкай майстэрні, што я аднойчы і зрабіў. Той хуткі і нейкі зусім спрынтарскі сэкс Алене, між

іншым, не спадабаўся. Ён і мне падаўся прэсным, бо ў Аленінай хуткай узбуджанасці і згодзе была яшчэ і нейкая бабская практычнасць. Пасля таго, як я спыніўся, яна абыякавым голасам папытала: «І ўсё? Я разлічвала, што будзе крыху даўжэй...» — «Наступным разам зробім даўжэй!» — паспешліва паабяцаў я. Цяпер замест працяглай сэкс-гульні я прыйду і прапаную Алене схадзіць на канцэрт. Хіба гэта натуральна? Можа, і натуральна для іншых, але не для майго хіповага і вальнадумнага стылю ў жыцці. З іншага боку, гэта была пэўная баязлівасць. Што-што, а баязлівасць я заўсёды мог у сабе пераадолець.

Алену я знайшоў у вялікім інтэрнацкім пакоі. Акрамя яе ложка і яе тумбачкі, у тым пакоі стаяла яшчэ адзінаццаць ложкаў і адзінаццаць тумбачак. Жыць у такім пакоі, можа, і не

вельмі зручна, але ў ім былі ажно два вакны і нават меўся гаўбец, на якім можна было пастаяць і пакурыць. Я пачаў з прапановы пакурыць на гаўбцы:

— Лен, можа, пакурым на шыкоўным гаўбцы?

— Курыць не хачу, але магу з табой пастаяць, пакуль ты пакурыш...

Мы выйшлі на гаўбец. Я прыкурыў «арбіту» і дастаў з кішэні квіткі:

— Пойдзем на «Песняроў»?

— Ты дастаў квіткі на «Песняроў»?

— Сама бачыш.

— Дзеўкі не павераць, калі я скажу, што іду з табой на «Песняроў».

— Можаш і не казаць сваім дзеўкам.

— Як гэта не сказаць? Скажу! Хай, сучкі, пазайздросцяць.

— Хіба што дзеля таго, каб іх жаба зайздрасці паперадушыла, скажы. Яшчэ лепей — скажы, што мы з табой

проста ідзём у кіно. З кіно ўсё ўсім зразумела.

— Пра кіно не цікава нават казаць. У кіно не трэба апранацца па-святочнаму. А тут — я пачну апранаць святочнае, і дзеўкі абавязкова спытаюцца… Куды і з кім выпраўляюся?

— Скажы, што Ян Буланчык запрасіў цябе на рэпетыцыю «Пінскай шляхты».

— І я апранаю сваё святочнае, каб паглядзець «Пінскую шляхту» з Янам Буланчыкам?

— Добра, давай ты ўсім скажаш так, як ёсць. Самае простае і надзейнае.

Што сказала Алена сваім адзінаццаці суседкам па пакоі, я не пацікавіўся. Мусіць, сказала, што ідзе са мной на канцэрт «Песняроў».

Пад Палацам спорту я яе сустрэў у белай кашулі. Бываюць моманты, калі мне хочацца надзець белую кашулю. Некаму для самасцвярджэння патрэбна

жоўтая кашуля, а мне трэба абавязкова белая. Алена таксама прыйшла ў белай паўпразрыстай блузцы. Мы былі светлай парачкай. Такой сабе летняй і светлай.

Замест прывітання Алена высока ўзняла левую руку і пакруціла перад маімі вачыма. На сярэднім пальцы ў яе ззяў залаты пярсцёнак:

— Бацькі падарылі на васямнаць год. Падабаецца? Яго я надзяваю толькі ў самыя ўрачыстыя моманты!

Пярсцёнак мне спадабаўся. Акуратны. Шырокі. Аздоблены роўнымі рыскамі.

Было прыемна пагладжваць у цемры руку, упрыгожаную залатым пярсцёнкам. Гэта была першая жаночая рука з пярсцёнкам, якую я пяшчотна пагладжваў у час музычнага канцэрта. Сказаць па праўдзе, з усіх частак Аленінага цела я палюбіў толькі яе

левую руку, якую і пагладжваў. Да-па-гладж-ваў-ся! Не ведаю, як так атрымалася, але пярсцёнак споўз з пальца і ўпаў пад крэсла. Пад крэслам ён закаціўся ў шчыліну паміж дошак і праваліўся.

Добра, што пярсцёнак праваліўся не на пачатку канцэрта, а ў самым канцы, калі «Песняры» спявалі сваё заўсёднае і развітальнае «Бывайце здаровы, жывіце багата...». Каб пярсцёнак праваліўся на пачатку песняроўскага выступлення, дык Алена паспела б мяне з'есці разам з белай кашуляй, а так яна паспела толькі пакусаць. Пакусала моцна, але толькі маральна, да фізічна хапання зубамі не дайшло:

— Што я цяпер бацькам скажу? Пайшла на канцэрт і згубіла залаты пярсцёнак? Пярсцёнак узяў і праваліўся паміж дошак? Хто мне паверыць? Толькі дзеўкі і павераць! Яны ўзрадуюцца, бо

жаба зайздрасці, што іх душыла, цяпер душыць перастане…

Алена сыкала, сіпела і пасвіствала, як самая сапраўдная змяя. Яна пасвіствала, яна сіпела і сыкала на мяне. Каб яна толькі ведала, як я не люблю змяюк, яна б сіпела яшчэ больш.

Калі ў зале запалілася святло і публіка паціху пакінула палац, я падышоў да прыбірачкі і папрасіў дапамогі. Я расказаў пра залаты пярсцёнак, што праваліўся паміж дошак. Так як квіткі ў мяне былі дарагія і сядзеў я на адным з першых радоў, дык маё крэсла стаяла на дашчаным подыуме. Прыбірачка паказала месца, з якога найлепш залазіць пад той падыум. Я палез. У белай кашулі я залез у бруд і пыл. У белай кашулі я пралез паміж рознымі металічнымі вугалкамі і трубкамі да месца пад сваім крэслам і знайшоў там залаты пярсцёнак.

Я сціснуў пярсцёнак у кулаку, узняў галаву і зірнуў на шчыліну ў дошках. Вострае святло секанула па воку, і разам з вокам яно рассякло ўсю маю галаву. Мая рассечаная галава зрабілася падобнай да дзівоснай кветкі, і я пабачыў адначасова сваё будучае і мінулае. У тым будуча-мінулым адразу загучалі ўсе мае песні і ўсе мае вершы, што некалі напішу. Адну з іх нават выконваў пясняр Барткевіч.

Задаволены, я вылез з-пад подыума.

— Не знайшоў? Так і ведала, што не знойдзеш! — Алена зноў пачала сыкаць.

Золата на маёй далоні яе супакоіла і нават узрадавала, але сыкаць Алена не перастала:

— Нават не верыцца, што ты яго знайшоў. Проста не магу паверыць, што гэта мой пярсцёнак! Дзеўкі таксама не павераць...

— Слухай, Лен, давай падыдзем да Барткевіча. Вунь ён на сцэне стаіць, каля мікрафона...

— І што мы скажам Барткевічу? Скажам, што згубілі і знайшлі залаты пярсцёнак? Думаеш, яго зацікавіць гісторыя з пярсцёнкам?

«Думаю, што Барткевіч будзе спяваць маю песню!» — падумаць я падумаў, але прамаўчаў.

# ЗАЛЯЦАННІ

Ёсць час, калі мастаку трэба сесці за стол і пачаць маляваць гераічны комікс. На вуліцы рэвалюцыя. У парламенце спрэчкі, сваркі ды бойкі. У тэлевізарах калейдаскоп з геамаразматычных навінаў, а ты сядзіш за сталом і няспешна малюеш казачны комікс. Выбудоўваеш кадр за кадрам. Прыдумляеш подпісы. Робіш абрысны малюнак і расфарбоўваеш яго. Праца цяжкая і патрабуе шмат часу. Яна трымае, не адпускае на вуліцу, не дае табе схапіць сякеру і разваліць напалам голаў ворага. Усе твае страсці пераліваюцца ў комікс пра крыважэрнага цмока і асілка з вялікім сэрцам.

Так я сядзеў у маленечкім кабінеціку часопіса «Ключ» і маляваў каляровымі алоўкамі комікс пра цмока-людажэра і магутнага асілка, які бараніў зняважаных

і пакрыўджаных людзей. Мой працоўны стол быў завалены накідамі і эскізамі. Чыставыя малюнкі віселі на сцяне, акуратна замацаваныя шпількамі да шпалераў.

Часопісную журналісцкую адпрацоўку я таксама рабіў, але яна не забірала шмат часу. Мой асноўны час забіраў комікс.

Я вастрыў алоўкі, калі ў кабінецік зайшла Вольга — журналістка з аддзела чытацкіх лістоў:

— Валодзечка, мая маці прасіла цябе зайсці да яе ў бібліятэку.

Сказала бледнатварая журналістка і накіравалася да дзвярэй.

— Нешта здарылася? — я паспрабаваў пытаннем запыніць мінорную Вольгу.

— Яна ўсё патлумачыць.

— Воль, нашто такія інтрыгі… Скажы, што здарылася, а то я не пайду да тваёй мамы ў бібліятэку.

— Каб я магла сказаць, я б сказала. Не магу. Схадзі ў бібліятэку. Тут ісці пяць

хвілін. Маці зварыць каву, пакажа новы кнігі. Схадзі, я цябе прашу.

— Угаварыла. Адкладаю комікс, кідаю працоўнае месца і бягу ў бібліятэку.

Рэвалюцыйны час хуткі, усе некуды бягуць, некуды ляцяць, некуды спазняюцца. Тых, хто спазняецца заўсёды болей за тых, хто паспявае прыйсці своечасова. Каб не спазняцца, каб прыходзіць у час, я прымусіў сябе сесці за комікс пра цмока, які сваім вогненным дыханнем можа спаліць цэлую вёску і можа нават замак спаліць. Цмок — жахлівая з'ява. Ён — метафарычны вобраз бязлітаснай вайны. Той вайны, якую трэба спыніць любым чынам, нават калі давядзецца ахвяраваць уласным жыццём.

Асілку і цмоку давялося прыпыніць свой двубой і пачакаць, пакуль я схаджу ў бібліятэку да Еўдакіі — маці нашай часопіснай Вольгі.

Бібліятэкі люблю. Усе бібліятэкі люблю — бедныя школьныя, бязлюдныя местачковыя, стракатыя дзіцячыя, строгія ведамасныя, папулярызатарскія гарадскія, багатыя дзяржаўныя, разнастайныя прыватныя. Дом без кніг для мяне і не дом, а гатэль. Таму і бібліятэкарак я паважаю, таму і да Еўдакіі прыйшоў. Яна загадвала бібліятэкай у старым Саюзе пісьменнікаў. Вялікая, на пяцьдзясят тысяч тамоў, збольшага беларускамоўная бібліятэка мяне сустрэла сцішанасцю. Бібліятэчная сцішанасць асаблівая, бо ў ёй безліч затоеных страсцей. Вазьмі з паліцы кнігу, разгарні — і ты адразу апынешся ў новым свеце. Гэтым разам я прыйшоў у бібліятэку не дзеля казак пра асілкаў у іншасвеце, а дзеля Еўдакіі і яе Вольгі.

— Валодзя, у Волі праблема, — пачала Еўдакія з непадробна сумнымі інтанацыямі. — Яна думала сама табе расказаць, але гэта выглядала б неяк

прэтэнцыёзна. Ты мог бы гэта прыняць за яе заляцанне да цябе. Таму мы з ёй вырашылі, што пра яе праблему табе раскажу я. Яе праблема ў вашым адказным сакратары Леанідзе. Ён да яе пачаў заляцацца, ляпіцца, прыставаць. Пачаў рабіць непрыстойныя прапановы. Пачаў пагражаць. Воля яго баіцца. Натуральна. Яна гідзіцца і баіцца яго. Ёй не падабаюцца ягоныя нахабныя і, скажам праўду, старэчыя заляцанні. Воля баіцца, што калі не саступіць Леаніду і не пачне з ім спаць, дык ён яе звольніць, пагоніць з працы. Вользе праца патрэбна. Яна адна. У яе дзіця на руках. Расказваць сваім старэйшым сынам я не рызыкую, бо панапіваюцца і пойдуць у рэдакцыю «Ключа» біць Лёню. Нічога добрага з такой бойкі не атрымаецца, ты ж разумееш. Варта неяк па-ціхаму разабрацца. Разумна трэба ўсё зрабіць.

Еўдакія расказвала пра інтымную праблему дачкі так, нібыта я быў ім

сваяком, нейкім зусім блізкім па крыві чалавекам. Сама Еўдакія была падобная да стога сена, накрытага посцілкай. Такая ўся свая, што я проста мусіў паставіцца да яе слоў, як да слоў роднай маці.

— Добра, Валодзя, і тое, што табе мая Вольга не падабаецца. Гэта правільна, што выбіраеш вялікіх і моцных жанчын. Такая малая, як Воля, працаваць не можа. Хутка стамляецца. Гаспадыня з яе кепская. Трэба выбіраць гаспадыню, а не прыгажуню ці ляльку. Трэба выбіраць жанчыну для жыцця, а не для забаўкі. Наша Воля добрая для забаўкі, а для жыцця яна табе не падыходзіць. Вось да яе мужыкі і лезуць, каб пазабаўляцца. Пазабаўляюцца і кідаюць. Добра, каля яна сама згодная пазабаўляцца, а тут якія забаўкі. Пакута суцэльная. Гідота. Гвалт. Трэба, каб ты Леаніда спыніў. Трэба, каб ты абараніў маю дачушку. Аддзячыць я табе аддзячу. Ты любіш кнігі, любіш новыя кнігі,

я падрыхтавала пару томікаў з бібліятэкі фантастыкі. Табе спадабаюцца. Бяры.

Дуся выцягнула з шуфлядкі свайго цёмнага, пазастаўлянага картачкамі стала пакунак з кнігамі.

— Чытай і пішы. Пішы і малюй. У цябе добра атрымліваецца пісаць і маляваць. Ты малайчынка. Ты абароніш Волю. У цябе атрымаецца.

Пасля размовы з Дусяй я пайшоў у краму «Каравай», каб там выпіць кавы і падумаць пра размову з адказным сакратаром — спадаром Леанідам. Тую каву, што абяцала мне Воля, Еўдакія так і не зварыла.

Ясней яснага — ісці ў кабінет да адказнага сакратара не хацелася. Пагатоў не хацелася нажываць сабе ворага на роўным месцы. Як потым працаваць? Як сядзець на планёрках і на святочных застоллях? Добра, на застоллі можна не хадзіць. Наогул, чаго перамацца? Пайду і скажу як ёсць. Папрасілі сказаць,

я сказаў. Цяжкае кепскае лепей не адкладаць. Ідзі і зрабі.

Сакратар Леанід быў вясёлы пяцідзесяцігадовы таўстун з ідэальна круглай і амаль голай галавой. Ён саромеўся ўласнай лысіны і заграбаў на яе пару-тройку доўгіх светлых валасінак. Заграбон Леаніда выглядаў кранальна. Самае важнае, што добры настрой ніколі не пакідаў Лёню.

— Заходзь, старычок! Праходзь, старычок! Сядай, старычок! Што здарылася, старычок?

— Здарылася… Хадзіў я да маці нашай Вольгі, да Еўдакіі Емяльянаўны, да Дусі ў бібліятэку! Хадзіў, бо Вольга папрасіла схадзіць. Жанчына просіць, самі разумееце…

— Разумею, старычок! Жанчына просіць. Што яна папрасіла?

— Папрасіла, каб я дапамог Вользе. Маці папрасіла, каб я дапамог яе дачцэ. Маці перажывае за дачку. Разумееце? Перажывае, бо Вользе цяжка ў нас

працаваць. Ёй цяжка працаваць, бо вы да яе пачалі заляцацца.

— Я? Заляцаюся? Я? Прыстаю да Вольгі? — Лёня зарагатаў. У складаныя моманты ён заўсёды рагоча. Была ў чалавека здатнасць — абяззбройваць апанента нечаканым гучным рогатам. Мяне ён таксама пару разоў абяззбройваў, але не ў гэты момант. Да артыстычнага рогата спадара Леаніда я быў загадзя падрыхтаваны.

— Вы, спадар Леанід. Так сказала Дуся. Вольга пасаромелася сама казаць, а Еўдакія не пасаромелася. Вольга баіцца вас. Баіцца, што калі яна адмовіць, калі яна вам не дасць, скажам так, дык вы яе прагоніце з рэдакцыі «Ключа». Да начальства Вольга пайсці баіцца, бо вы з нашымі начальнікамі — сябры-сабутэльнікі. Вы з імі разам не адзін пуд солі з'елі. Вы з імі і ў агонь, і ў ваду, і праз медныя калідоры службовых лабірынтаў

праходзілі. Таму я да вас прышоў, каб за Вольгу заступіцца. Яна хацела была братам старэйшым пра вас і прыставанні расказаць, але браты ў яе не дыпламаты. Зусім не дыпламаты. Могуць яны дроў наламаць. Таму я тут сяджу і нясу гэтую пацяруху. Паабяцаў я Дусі з вамі пагаварыць, як мужык з мужыком.

— Малайчына, старычок. Усё правільна разрульваеш. Я выпіў. Перабраў. Прыстваў. Такога больш не будзе. Думаў, я ёй крышку падабаюся, а калі не падабаюся, дык ідзе яна лесам. Ідзе яна, скача, сучка з вяртлявай дупкай. Магла б, дарэчы, і сама сказаць! Не, яна пабегла да мамкі, а тая падсунулася да цябе. Добра, што да цябе, старычок. Ты — свой. А чаму ўсё ж яны сваім мужчынам не паскардзілася?

— Браты яе — п'яніцы. Пабаялася, што панапіваюцца і палезуць да вас біцца. Скандальныя яны. Муж яе кінуў, уцёк некуды ў Самаркандыю; там ён паціху і прайграе

сваё жыццё ў карты. Так атрымалася, што сёння няма каму за яе заступацца…

— Старычок, а бацька дзе? Нешта я пра яго зусім нічога не чуў.

— Бацька? Дарэчы, гэта вельмі рамантычна-драматычная гісторыя… Ён выкінуўся з вакна французскага гатэля. Упаў і забіўся. Пра ягонае самагубства расказвалі самыя розныя рознасці. Казалі, што ён хацеў застацца ў Парыжы са сваёй першай жонкай, а тая яму адмовіла. Казалі, што ён — старэйшы ў групе савецкіх пісьменнікаў, забыў у Мінску, дома, пад люстэркам усе падрыхтаваныя франкі, што тым пісьменнікам належылі. Забыў выпадкова, а пісакі яго елі поедам цэлы тыдзень і заелі — давялі да самагубства. Нават казалі, што яго выкінулі праз вакно кэдэбісты. У гэта зусім мала хто верыў, але казаць казалі. Казалі, што апошнім часам ён шмат піў, праз п’янства занурыўся ў дэпрэсію і выйшаў з яе праз гатэльнае вакно

ў Францыі. Ён разбіўся і пакінуў цяжарную жонку з трыма хлопчыкамі. Вольга нарадзілася пасля заўчаснай смерці ўласнага бацькі.

— Жудасць, старычок. У кожным разе, Дусю і Вольгу мне шкада.

— Так, у гэтай гісторыі з самагубствам іх шкада найбольш.

— Старычок, я не прапаноўваю выпіць. Ты ж ведаеш, у мяне сэрца. Таму ў кабінеце не трымаю.

— Калі б вы і прапанавалі, я б адмовіўся. Працы шмат з коміксам. Пасля чаркі я працаваць не магу. Дарэчы, пра пачастункі і падарункі. Тут Дуся перадала вам пару выдатных кніжак — сучасная фантастыка. Перад сном ці ў выходныя пачытаеце іх з радасцю.

Пакунак з кнігамі я пакінуў на шырокім сакратарскім стале і вярнуўся да свайго маленечкага стала з вялікавокім, трохгаловым, сінім цмокам.

# АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

Смерць — сон. Заснуць,
Заснуць і марыць. Так, так... Але пытанне:
Якія мары напаўняюць сон смяротны,
Калі пакінеш тлумны й шумны свет?
*Уільям Шэкспір, «Гамлет», акт 3, сцэна 1.*

Што ў нас з табою ёсць, акрамя аднаго апошняга жадання? Адно-адзінае, апошняе жаданне — і больш нічога няма. Не спяшайся абурацца. Паслухай аповед, пакуль мы з табою яшчэ ёсць на гэтым няпэўным і крохкім свеце. Бо праз які час нас не будзе, зусім не будзе, і ніхто не ўспомніць пра нас. І можна будзе сказаць: нас больш няма, і не будзе ніколі, і не спадзявайся на іншае. Сумна, але такое яно, чалавечае жыццё, — падарожжа з даты А ў дату В. Даты гэтыя сам ты дакладна не ведаеш. Іх ведаюць іншыя,

а ты не ведаеш. Нават у самазабойцаў дата прыблізная. Але мы з табою не самазабойцы, спадзяюся. Мы проста селі за столік у кавярні, каб я мог распавесці пра апошнія жаданні іншых. Нават асуджанаму на смерць прапаноўваюць назваць сваё апошняе жаданне. Ён гаворыць, а к*а*ты выконваюць пажаданне. Гуманна. А чым мы з табою адрозніваемся ад асуджанага на смерць? Хіба мы не асуджаны? Канешне, можна самападмануцца і панавыдумляць жаданняў і мітусіцца, спатольваючы прагу мець немаведама якія даброты, але вынік будзе той жа ж, што і ў асуджанага на смерць — апошняе жаданне, адно жаданне, а за ім нішто. Гэтае нішто, гэтую пустату людзі напаўняюць самымі неверагоднымі жаданнямі.

Вось толькі некалькі з іх...

Спявачка Кася захварэла, ды так моцна, што сабралася паміраць. Сябры суцяшалі

Касю, як маглі, — абяцалі хуткую папраўку і доўгае жыццё з песнямі. Касечка дэпрэсілася, нудзілася і капрызілася. Дэпрэсія была такая моцная, што спявачка сабралася развітацца з жыццём і папрасіла сяброў пакласці ёй у труну сотавы тэлефон. Нашто нябожчыцы тэлефон? «Раптам я траплю ў іншы свет, а сувязь з вашым светам яшчэ застанецца. Тады я вам праспяваю пякельныя песні, а мой райскія…»

Калі пра сотавік распавёў, ды тут і пра відэакамеру варта сказаць…

Мастак-экстрэміст Юрась быў аматарам перформансаў са здзекамі з уласнага арганізма. Вырашыў ён скласці запавет з такім пажаданнем: «Калі будзеце мяне хаваць, пакладзіце ў труну ўключаную відэакамеру. Хай здыме мой астатні смярдзючы перформанс!» Вырашыў, напісаў, але забыўся яго аддаць мастацтвалюбам, што спецыялізуюцца на перформансах. Так і пахавалі Юрася без

камеры. Зрэшты, той камеры ў Юрася ніколі не было.

Камеры, сотавікі, тэхнічны прагрэс, а можна і простымі рэчамі захапляцца. Званочкамі і матузкамі…

Паміраючы, старая Бася папрасіла пакласці ёй у труну шаўковы матузок, ды так пакласці, каб адзін канец таго матузка быў у труне, а другі выходзіў з магілы і чапляўся да срэбнага званочка. Той званочак мусіў вісець на крыжы. Калі раптам Бася прачнецца ў магіле, дык таргане яна за матузок, званочак заціліннькае, вартаўнік могілак пачуе голас званочка і Басіну труну выцягне з-пад зямлі. Каб суцешыць старую, сваякі паабяцалі выканаць пажаданне і, што ўхвальна, — выканалі. Бася сапраўды, як і прадчувала, прахапілася ў труне і, намацаўшы шаўковы матузок, тарганула за яго, ды так моцна пацягнула Бася за свой выратавальны матузок, што канец,

прычэплены да званочка, развязаўся і гладкі матуз без усялякіх перашкод зацягнуўся ў труну да перапужанай Басі. З матузком, зацiснутым у кулаку, Бася памерла другі раз і назаўсёды. А званочак так і застаўся вісець на крыжы, так і вiсеў да першага моцнага ветра. Разгайданы ветрам, званочак пачаў цiлiнькаць і выклікаў вартаўніка. Ахоўнік могілак прыйшоў на Басіну магілу і акуратна вырваў язык са званочка, каб марна не званiў і не парушаў спакой.

Важная гэта рэч — спакой на могілках. Такая ж важная, як і цемра ноччу. Толькі баяцца і не любяць людзі цемры, а любяць святло...

Сярожа ў Бога не верыў. На загробнае існаванне, рэінкарнацыю і якое іншае рэканструяванне і ўваскрашэнне ён таксама не спадзяваўся. Толькі ўсё ж Сярожа паклаў запальнічку ў кішэнь пінжака, падрыхтаванага да ўласнага

пахавання. «Хай ляжыць. Шкоды нікому не зробіць, а мне суцяшэнне, раптам там чарната глыбокая, а ў мяне ў руцэ — светлы агеньчык,» — прыкладна так думаў стары Сярожа, збіраючыся ў апошні шлях. А каму не хочацца ў суцэльным мёртвым чарноцці пабачыць жывы агеньчык? Няма такіх.

Сапраўды няма тых, хто хацеў бы прачнуцца ў падземнай цямрэчы...

Аптэкарка Хася любіла Бога. Яна шчыра верыла ва Усявышняга, але ў моц сваёй аптэкі верыла яшчэ больш, гэта таму, што на працу яна хадзіла ўсё ж у аптэку, а не ў царкву. У царкву Хася наведвалася толькі па святах, а на работу даводзілася прыходзіць кожны будзённы дзень, а раз на месяц ёй выпадала яшчэ ў выходны дзяжурыць. За аптэчным прылаўкам і працякло ўсё Хасіна просценькае жыццё. Хася ўжо было сабралася выйсці на пенсію, а тут раптам

на яе цела напаў рак і ўвобмільг прывеў аптэкарку да смерці. Перад самым сконам Хася паклала ў кішэню трунарнай сукенкі ампулу з атрутаю, бо баялася не смеці і не Бога, а баялася прачнуцца пад зямлёю. На выпадак такога прахоплівання і рыхтавалася атрута. Толькі нябожчыцу Хасю не сталі закопваць у зямлю, а спалілі яе ў крэматорыі.

Жаданні, жаданні… Вось і яшчэ адно зусім маленькае жаданне…

Выйшаў Вова на пенсію, хацеў быў ажаніцца з маладухаю, але перадумаў і пачаў штодня вудзіць рыбу. Так і правудзіў ён рыбку да самай старасці, так і прахадзіў-прасядзеў на берагах вадаёмаў да поўнай нямогласці. Рыбаком ён быў спрытным і абазнаным у самых розных таямніцах рыбавуднага мастацтва. Быў у Вовы і зроблены на замову сталёвы пазалочаны кручок з наматаным на яго вогненна-рыжым жаночым воласам,

воласам той самай маладухі, з якой збіраўся ажаніцца, ды не ажаніўся. На такі кручок рыба сама чаплялася, як дурная. І задумаў Вова палавіць рыбу з чаўна Харона. Уяўляў ён гэта такім чынам: «Харон павязе мяне ў царства мёртвых праз раку Лету, а я ціхенька закіну пазалочаны кручок за борт чаўна і злаўлю рыбіну. Быць таго не можа, каб не злавіў! Падзіўлюся на яе і адпушчу. Чамусьці бачыцца мне ладны шчупак. Ніхто ж не ведае, якая рыба вядзецца ў хвалях Леты, а я даведаюся...» Што там будзе далей, рыбак не ўяўляў, яго фантазіі хапала толькі на ловы шчупака ў водах Леты, і гэтым ён самасуцяшаўся. Каб спраўдзіць задуму, Вова наматаў сабе на палец доўгі кавалак жылкі з пазалочаным кручком і так хадзіў апошнія гады свайго рабалоўнага жыцця. А калі памёр, дык тую жылку з кручком жанчыны, што абмывалі Вову, проста выкінулі, бо адна з іх

злавілася на той крук залаты і абклала нябожчыка самымі брыдкімі словамі.

І смешна, і страшна...

Артыстачка Югася страх як баялася пастарэць і страціць салодкую мілавіднасць. Гады плылі і няўхільна адшчыквалі свежасць ад знешнасці артысткі. Югася зрабіла сабе маску — гладкую, светлую і румяную. Маска зусім не старэла. Паміраючы, Югася папрасіла, каб у труне яна ляжала ў масцы. Збіраючы Югасю ў астатні шлях, супрацоўнікі тэатра не паклалі маску ў труну. Чаму? З-за вачэй. Маска мела прыгажосць толькі дзякуючы жывым вачам артысткі, а калі ў цёмных дзірках з'явіліся заплюшчаныя векі нябожчыцы, маска набыла жудасны выгляд. Так і не здзейснілася апошняе жаданне Югасі, так і не стала яна перад Богам у вечна маладой масцы.

Сапраўды, пэўныя жаданні маюць такую кепскую завядзёнку — не

здзяйсняцца. Вось і яшчэ адно з іх...

Тодар выпіваў. Моцна піў той Тодзік, так моцна, што і гадзінку не мог вытрымаць, каб не прысмактацца да рыльца з гарэлкаю. З усіх напояў п’яніца аддаваў перавагу горкай настойцы з назваю «Тры дзявяткі». А з усіх пляшачных памераў выбіраў найменшыя ліліпуцкія стограмовікі, то ж бо лёгка хаваліся ў кішэні ці яшчэ дзе на адлегласці выцягнутай рукі. Кватэра і кантора, дзе жыў-працаваў Тодзік-п’янтос, поўніліся парожнімі пляшачкамі, нераўнуючы як сланечнікі семкамі. Поўніліся-поўніліся пакуль Тодар не пайшоў у глухую завязку. Скончыў з пітвом Тодзік намёртва, назаўжды, назаўсёды, але была ў яго мара: калі раптам прахопіцца ў іншым свеце, дык абавязкова мусіць глынуць з малюпасенькага рыльца. Так ён і заначку зрабіў, паклаўшы ў нагрудную кішэню свайго пахавальнага гарнітура бутэлечку

з настойкай пякучаю. Толькі не лёс яму быў у лепшым свеце алкаголем частавацца, бо цёткі, што выпраўлялі Тодзячку на вечны спачын, знайшлі пляшачку і падумалі, што 999 занадта нагадвае 666. Ну сам паспрабуй з рыльца «Тры дзявяткі» выпіць, і ўбачыш лічбу 666. А хто гэта ў светлы свет выпраўляецца з д'яблавай лічбаю? Так апошнюю Тодараву пляшачку цёткі і выпілі, кожная па малюпасенькім глытку.

Жывое жывым. Толькі не ўсе любяць жывое і натуральнае…

Авантурыстка Ася не любіла натуральныя пахі. Яна шанавала дарагую парфуму, а людзей, што маюць звычайны чалавечы водар, называла «смярдзючымі». Дэзадаранты, адэкалоны, духі, араматызаваныя жуйкі і таблеткі былі для Асі не толькі абавязковымі, але і найважнейшымі рэчамі ў яе разнаітым і шматаблічным жыцці. Калі духмянае

жыццё авантурысткі падышло да завяршэння і Ася ўявіла смурод уласнага трупа, яна назапасіла цэлую скрыню найдаражэйшых французскіх духоў і папрасіла сяброўак, каб не толькі абмылі яе спіртам, а і ў мёртвы рот залілі цэлы літр духоў. Сяброўкі выканалі авантурнае пажаданне Асі і моцна пашкадавалі пра зробленае, бо такога цяжкага смуроду, які сыходзіў ад напампаванай парфумаю нябожчыцы, яны ніколі не чулі. Так вось і здарылася, што Ася духмяная засталася ў памяці сяброў і знаёмых Асяй смярдзючай.

Крыўдна… А на каго крыўдаваць? На сваю неразумнасць?

Заможны Алесь перад самай смерцю справядліва падзяліў вялікую спадчыну і папрасіў сваякоў ні ў якім разе не адкопваць і не ўскрываць ягоную труну. Тыя пакляліся перад абразом, што не будуць раскопваць магілу і турбаваць

прах Алеся. Як жа ж, дапросішся ты розуму ў людзей. Не прайшло і тыдня, як пад халодным святлом высокай поўні сваякі раскапалі яшчэ свежы капец, рассунулі дошкі труны, раструшчанай пад цяжарам зямлі, і нахабна абшукалі нябожчыка. У кішэні пінжака знайшоўся загорнуты ў фольгу ліст… «Ведаў жа пра паскудствы людзей. Ведаў і маліў Бога нашага літасцівага, каб даў ім розум, каб не былі людзі такімі ілжывымі і гнюснымі, каб не думалі, нібыта забяру я багацце з сабою ў магілу. Цяпер пераканаўся яшчэ раз, што розуму ў людзей зусім мала, што не даюць яны нават сваяку свайму спакою пасля смерці і што акрамя праклёнаў нічога яны больш не заслужылі! Праклінаю вас — хіжыя і сквапныя!»

Так. Хіжыя, сквапныя і недальнабачныя мы…

Юрася любіла сябе і даглядала. Масажысты, касметолагі, цырульнікі

дапамагалі ёй. Аднойчы ў салоне прыгажосці дзяўчынка, што рабіла Юрасі педыкюр, між іншым заўважыла: «У мужчын ногі больш дагледжаныя, чым у жанчын. Рукі, твары, валасы, скура — гэта ўсё ў жанчын лепей захоўваецца, а ногі лепшыя ў мужчын. Можа, гэта з-за абутку, з-за высозных абцасаў... Не скажу. Але скура на нагах у іх амаль без мазалёў і бародавак, нават не верыцца...» Юрася ажно ўспацела ад такой нечаканай навіны. Яна ж даглядала свае ногі, яна паліравала іх пемзаю і мазала крэмамі, а тут такое некарэктнае параўнанне з мужчынскімі ступакамі. Словы педыкюршы так уразілі Юрасю, што гэта адбілася ў яе запавеце. «Калі ласка, зрэжце і выкіньце на сметнік скуру з маіх падэшваў. Гэтая брудная, тоўстая скура так абрыдла мне за жыццё, што ў лепшы свет я паспрабую выправіцца без яе!» Паталагаанатам зрэзаў скуру з падэшваў

нябожчыцы Юрасі. Жанчына і пасля смерці — жанчына, і мае поўнае права навесці апошнюю прыгажосць.

Пра скуру і настуны эпізод...

Багамольны Чэсь баяўся, што яго выправяць у апошні шлях без нацельнага крыжыка. «Будуць абмываць, будуць пераапранаць, здымуць крыж нацельны і забудуцца надзець. Як перад Богам без крыжа стаяць? Дзе крыж твой? — спытае Ён, а я адказ не знайду. Усё жыццё пранасіў крыжык, а як перад Усемагутным паўстаў — дык без крыжа. Сорам які! Такога не будзе!!!» Падумаў, паразважаў, памеркаваў Чэсь і зрабіў сабе на грудзях татуіроўку — маленечкі шасціканцовы крыж. Неўзабаве Чэсь памёр, і паміраў ён з лёгкім сэрцам і радаснымі настроямі.

Лёгкая смерць — гэта ж добра...

Стогадовая Леся часнык не любіла, дух ягоны цяжкі не пераносіла і стравы з часныком не ўжывала зусім, з-за пякоткі.

Але чаго толькі не ўтворыш, калі баішся чорта хвастатага?! Прачула неяк Леся, што чорт сам пабойваецца пякучага часныку, прачула і ўзрадавалася, бо даведалася нарэшце, як тую гадзіну рагатую напужаць. Прыйдзе чорт, каб Лесю ў пекла валачы, а яна яму галоўкаю часнычнай у свінячы лыч тыцне, прыпячэ яму нюхаўку, і саўецца чарцяка ў клубочак ад непераноснага часнычнага смуроду. Так і пахавалі стогадовую Лесю з часнычным зубком у кулачку. А яшчэ, згодна з запаветам, некалькі гадоў высаджвалі на яе магіле часнык, на ўсялякі выпадак.

З самых розных выпадкаў складаецца мазаіка шматаблічнага жыцця...

Слава азірнуўся на пражытае жыццё і здзівіўся, бо зразумеў, што адзіным сапраўды шчаслівым момантам у ягоным перакручаным і пабітым нягодамі жыцці было катанне на мапедзе. Так у свае

шаснаццаць Славіку хацелася лётаць на жалезным кані, а мапеда ў яго і не было. Давялося пазычыць. О, як халадзела нутро, як трымцела напятае цела, як сціскаліся зубы, калі ён зводзіў з-пад хлебнай крамы чужы мапед! Краў? Так!!! Краў дзеля свайго шчасця, дзеля сапраўднага палёту па светлай дарозе ў духмяных і зялёных палях. І ён ляцеў, і ён быў свабодны і шчаслівы. Потым быў суд, быў тэрмін, было... Чаго толькі не было ў жыцці Славы?! А шчасце засталося там — у полі, у ветры над дарогаю. Таму перад сконам Слава набыў сабе мапед і папрасіў закапаць яго ў сваю магілу. Бздура? Ну хто гэта будзе закопваць у зямлю мапед, ды яшчэ новы? Ніхто. А каб выканаць волю нябожчыка, яму ў труну паклалі насос ад таго мапеда, ды і закапалі так — з насосам.

Каму насос у труне, а каму і пляшка гарэлкі...

Мажная Аліна любіла паесці, усё жыццё яна напампоўвалася смачнымі харчамі. А хударлявы муж яе выпіць любіў, ды так моцна любіў, што даводзілася яму лячыцца — гнаць з сябе зялёнага цмока. Лекаваўся ён няўдала, пакутваў праз гэта і хутка пакінуў Аліну за сталом адну. А яна жыла і жыла, самотнай тоўстай удавою, і нават плакала па начах, калі згадвала, як купляла мужу гарэлку, як несла дамоў, як урачыста стаўляла на стол і яны сядалі вячэраць. Таму і папрасіла Аліна сваіх суседзяў пакласці ёй у труну пляшку гарэлкі. А раптам у тамтэйшым садзе яна спаткае мужа-алкаголіка! Тады і прыдасца гарэлка, каб спраўна адзначыць сустрэчу з вечнасцю. Суседзі, займаючыся пахаваннем адзінокай Аліны, забыліся на апошняе пажаданне нябожчыцы, бо жывая вада — жывым, а мёртвым — мёртвая.

А цяпер, скажы ты мне, якое ў цябе апошняе жаданне... Якое?

# *Падарожнае апавяданне пра ўзрушанасці і раз'юшанасці*

# ЖАБРАКІ

Пачуў звон манеты, што ўпала ў кубак жабрака, і азірнуўся. Было тое ў Барселоне. Вось каго я пабачыў...

**Голы гарбун. . .**

Калі бачыш апранутага гарбуна, дык спадзяешся на цуд, маўляў, гэта фокус нейкі няўдалы, цырк. Зараз з’явіцца фокуснік у шаўковым цыліндры, узмахне чароўным дручком і чалавек выпрастаецца, выцягнецца, устане, і публіка выбухе воплескамі і крыкамі «Брава! Бравісіма!!!» Выгляд голага гарбуна — сама безнадзейнасць. Ні факір у чалме, ні маг у цыліндры тут не дапамогуць. Таму і ўзнікае жаданне адхіснуцца ад такога відовішча, адкупіцца ад яго... Гарбун пра тое выдатна ведае,

таму і працуе жабраком. Прыходзіць з самага ранку на куламеснае месца, распранаецца да майткаў, сядае на кардонку так, што тых майткаў і не відаць зусім, і камянее. Мінакі шчодра сыплюць яму цэнты. Сягоння ён сядзіць на Віа Грацыя, заўтра на пляцы Каталунія, пазаўтра на Дыяганалі, а праз тыдзень складаецца такое ўражанне, што ўся Барселона абстаўлена голымі гарбунамі. Куды ні пойдзеш, ён там сядзіць, гэты чырванаскуры індзеец-гарбун з тварам бога атцэкаў. Міндалевідныя, чорныя, без зрэнак вочы старажытнага бога дакалумбавай Амерыкі патрабуюць ад цябе ахвяраванняў...

«Вяртайце, вяртайце мне золата, якое вы — еўрапейцы — укралі ў майго народа! Сюды, сюды, у Барселону, ваш Калумб вазіў нарабаванае золата!» — так кажа табе бог індзейцаў, які цяпер сядзіць на тратуары ў выглядзе голага жабрака.

## Цыганская мадонна. . .

Іх шмат, гэтых невысокіх залатазубых жанчынак з сонным дзіцяткам на руках. Яны ў электрычках, у метро, на бульварах, каля кавярняў і бараў. Цыганская мадонна просіць на малако свайму маленькаму цыганскаму Хрыстосіку. Яна паказвае сваімі шырокарасплюшчанымі вачыма на дзіця:

«Не мне, ты ахвяруеш не мне, а яму! Паглядзі, які ён маленькі і прыгожы, яму трэба есці і расці. Ён вырасце і выратуе нас усіх!»

Так выразна, так пераканаўча, так гіпнатычна, што можна і паверыць, нібыта перад табою і не цыганка з цыганёначкам, а Марыя з Хрыстом. Але вось грошы сабраліся-забраліся і дзіця кладзецца на лаўку, і дастаецца аднекуль з-пад спадніцы цыгарэта, і «Дзева Марыя» закурвае і смяецца разам са сваімі

сяброўкамі-супляменніцамі, такімі ж цыганскімі мадоннамі, як сама.

**Дон Кіхот. . .**

Барселона ўсё яшчэ ў Іспаніі, а якая Іспанія без Дон Кіхота, без рыцара маркотнага вобраза? Уявіць Іспанію і не пабачыць Дон Кіхота немагчыма. Таму і жабрак выбраў сабе такі вобраз — сумны, маркотны і велічны. Ён ідзе праз Гатычны квартал у нагавіцах без адной калашыны. Ты можаш бачыць ягонае даўно не мытае шэрае цела. Ён — скура ды косткі, ды нячэсаная барада. На галаве не тазік для галення, а ваўняная вязаная чырвоная шапачка, але і ў вязанай шапачцы ён застаецца Донам, ці жывым трупам таго самага Дона. Яго пазнаюць, яму кідаюць на брудную далонь цэнты з партрэтам ягонага бацькі-стваральніка сіньёра Сервантэса.

## Сярэднестатыстычны пенсіянер. . .

Цалкам новы вобраз сярод жабракоў. Ён моцна адрозніваецца ад усіх астатніх, бо ён акуратна і чыста апрануты. На ім светла-блакітная адпрасаваная кашуля з кароткімі рукавамі, нагавіцы пясочнага колеру і скураныя панталеты. Сівыя валасы пастрыжаны і зачасаны назад. Твар светлы, не загарэлы, вочы блакітныя і ясныя. Ён стаіць на бульвары Каталунія. Калі ты праходзіш паўз яго, пустая жменька працягваецца да цябе:

«Дапамажы сабе! Ты будзеш старым, і ў цябе будзе нястача, і пенсійны фонд не дапаможа, і ты выйдзеш прасіць грошы... Выйдзеш, выйдзеш... Калі сягоння ты дапаможаш мне, заўтра нехта дапаможа табе! Калі не — дык не!»

Вельмі па-сучаснаму, вельмі выразны ўзор пенсіянера-жабрака. Праўда, хочацца спытаць:

«Дзе, дзяДуля, дзеці твае, дзе ўнукі?»
Не пытаюся.

**Жывёлавод. . .**

Частка людзей любіць жывёлу больш, чым чалавека. Яны згодныя падаваць на харч катам і сабакам, а не людзям. Жывёлавод выводзіць на пляц Каталуніі цэлую зграю сабак і котак. Ён рассыпае вакол сябе смярдзючыя харчы і садзіцца пасярод смуроду. Кацяняткі скачуць вакол жывёлавода-жабрака і вабяць дзятву. Сабакі, пэўна ж прытручаныя нейкімі лекамі, спяць на гарачых плітах. Асалавелы ад сонца ды віна жывёлавод пазірае на свет сабачымі вачыма, выраз твару ў яго чырвоны і нахабны, ён упэўнены, што коткі з кацяняткамі сваё павыпрошваюць, ну і яму тое-сёе перападзе з жывёльнага карыта.

**Бястварая вядзьмарка. . .**

Яна ўся ў суцэльна-чорным сядзіць, схіліўшы галаў так, што твару не відаць, рука далёка выцягнута ў бок гіпермаркету, на далоні манеткі. Ад таго, што твару ў чорнай дамы не відаць, уяўляецца найстрашнейшае, уяўляецца нейкая жахлівая хвароба, накшталт праказы ці неаперабельнага рака скуры.

«Вось ты, багаты і шчаслівы, шыбуеш у гандлёвы рай, а я, старая, згорбленая, збітая жыццём так, што ажно твар не магу ад зямлі падняць, сяджу і прашу ў цябе на кавалачак хлеба, на глыток супу. Тваё жыццё яркае, вясёлкавае, поўнае ўцехаў і салодкіх рэчаў, а маё чорнае, чэрствае, сагнутае ў крук. Адшчыкні хвосцік ад свайго круасана, падзяліся. Інакш уздыму свой твар, інакш праб'ю цябе навылёт сваім чорным паглядам і пракляну цябе. І страціш ты свой квіток у рай, страціш

незваротна, хвароба абрынецца на цябе і на род твой, а я буду лётаць вакол трупа твайго кругамі на памяле і рагатаць з немачы тваёй!»

Вядзьмарка — яна вядзьмарка і ёсць. Пакупнікі гіпермаркету адкупаюцца ад свайго страху перад чорнай вядзьмаркай, баяцца.

**Маха ў рыззі...**

Гоя намаляваў аголеную маху і схаваў яе за карцінай з махай, апранутай у белыя вэлюмы. Гоя не напісаў маху ў рыззі. Яна сама намалявалася пад сцяною старажытнага дома ў Гатычным квартале. Маладое цела, аблепленае шэрым паўпразрыстым рыззём, ляжала проста на камянях вуліцы. Побач з цыцкаю стаяла круглая місачка для ахвяраванняў. Чарнакудрая маха з малінавымі вуснамі і зрэнкамі на ўсе

вочы прыязна ўсміхалася белазубай усмешкаю:

«Хочаш? Вазьмі мяне тут, прылюдна, на камянях вялікай Барселоны. Вось маё цела, мае грудзі, мая похва... Яны твае! Не хочаш? Тады пакінь мне колькі манетак на асалоду наркатычную. Ты адмовіўся ад насалоды эратычнай, а я ад наркатычнай насалоды адмаўляцца не хачу. Мне патрэбен толькі сон, бяздонны сон... Заплаці за мае сны! За адно імгненне майго бясконцага сну...»

## Прарок прыкасцёльны...

На касцёльным ганку ён стаіць, абапіраючыся згорбленай спінаю на каменную сцяну. Валасы паўсталі дыбарам, вочы гарацць, сухія вусны шэпчуць малітву. У руцэ жалезны кубак:

«Кінь манетку, і ўсе пачуюць пра тваю дабрыню, пра тваё спачуванне да хворых

і нямоглых. Манетка дзынькне аб бомкнае дно кубка, і гэты гук Бог пачуе, і залічыцца табе дабрыня твая, залічыцца і на гэтым свеце, і за гэтым жыццём».

Не паверыць жабраку-прароку проста не выпадае. Каму тады верыць? Дзе, калі не ў саборы, шукаць паратунку для душы? Там прарокі драўляныя, каменныя, шкляныя, намалёваныя... Хіба яны за цябе папросяць перад Богам? Гэты папросіць, ён жа ўжо пачаў маліцца за цябе, ён ужо за цябе просіць. Правільна просіць! Манеты сыплюцца ў жалезны пусты кубак. Манеты сыплюцца, ты чуеш, як яны сыплюцца, а кубак не напаўняецца. У прарока кубак заўсёды пусты, яму ж нічога і не трэба, ён жа за іншых просіць.

**Юнак нахабны...**

Ён выходзіць са зграйкі такіх, як сам, нахабных юнакоў. Зграйкі стаяць каля

кавярняў і бараў. Стракатыя, гаманлівыя, усмешлівыя і вясёлыя моладзевыя зграйкі можна напаткаць у кожным куточку Барселоны. Вось адна са зграек выштурхоўвае з сябе нахабнага юнака. У сутнасці ён зусім і не нахабны, але дзеля прыколу выконвае ролю нахабніка. Ён прыспешвае крок насустрач табе, гукае «Сіньёр, сіньёр!» і пачынае прасіць цыгарэту. У 9 з 11 выпадкаў нахабны юнак атрымлівае дармовы тытунь, смачна зацягваецца салодкім дымам жабрацтва і з пераможным выглядам вяртаецца ў сваю зграйку.

**Растаман...**

«Калі табе кепска, падумай пра Афрыку!» — раіў амерыканскі амбасадар.

Быў я ў той Афрыцы, жах суцэльны. Але быў толькі на поўначы кантынента. Хто наведваўся ў экватарыяльную Афрыку, пагаджаўся з Селінам, які назваў яе краем

свету. А вось ён тут, на барселонскім аўтобусным прыпынку, край свету. На пыльным кардоне спіць мурын-растаман. На кардоне пасеяны самыя найдрабнейшыя манеты. Ён спіць і бачыць сон, што манеты з дробных вырастаюць у вялікія. Сны мурына-наркота часам спраўджваюцца, бо ён спіць на гэтым прыпынку трэці год. Ці сніць ён Афрыку? Наўрад. Ён сніць нудны спеў Боба Марлея:

«Аяяй, аяяй, забілі паліцыянта! Якое гора-горкае, закатавалі-замачылі паліцыянта... Можа, гэта я і забіў паліцая? Я быў такі абзяўбаны, што нічога не памятаю. Вы кажаце, я ашалеў, раз'юшыўся і забіў белага паліцыянта? Значыць, так яно і ёсць! Я — люты забойца! Я пайду ў турму. Нават калі я не забіваў гэтую бела-ружовую свінню, усё адно пайду за краты. Толькі кіньце мне манету на апошні касяк».

Апошні касяк — святое. Ніхто не будзе спрачацца з тым, што кожны касяк — апошні.

**Глуханямы з лістамі. . .**

Спытацца ў глуханямога, ці ён насамрэч глуханямы, — няёмка. Ніхто не пытаецца. Глуханямы раздае лісткі з вялікімі літарамі. Там адказы на ўсе пытанні. Дом згарэў! Бацькі памерлі! Сіраце цяжка жыць на свеце. Асабліва цяжка жыць сіраце, калі ні пачуць, ні сказаць нічога не можаш.

«Памажыце хоць чым! Памажыце хоць самай найдрабнейшай манеткай».

Дапамагаюць.

Манеты звіняць.

Жабрацтва — бізнес. Канешне, як і ўсялякая справа, жабрацтва вымагае пэўных укладанняў і своеасаблівых

талентаў. У жабрацтве патрабуецца артыстызм, і артыстызм суперрэалістычны, бутафорыя кепска аплочваецца ў гэтым занятку. Горб мусібыць гарбом, а не накладкай з кардону. Бруд павінен быць брудам, а не грымам з фарбаю. Калецтва — калецтвам... Але прымусіць свае недахопы працаваць, зрабіць з хібаў дасягненні — такое без прыроднага таленту не зробіш.

Манеты сыплюцца ў кубкі таленавітых жабракоў.

Тое-сёе ў жабрацкім бізнесе можна і ўдасканаліць, падправіць, праявіць ды падціснуць. Працоўныя месцы можна размеркаваць больш удала... Гарбун-індзеец мусіць сесці пад помнікам Калумбу. Жывёлавод павінен атабарыцца каля брамы ў заапарк. Дон Кіхоты хай стаяць каля сталовак «Панс», а чысцюткія пенсіянеры — на ганках банкаў.

Пазнавальнасць пратататыпаў варта падкрэсліць... Дон мусіць збіраць цэнты калі не ў тазік для галення, дык хоць бы ў мыльніцу. Мадоннам трэба забараніць паленне ў людных месцах. Вядзьмарка павінна працягваць да цябе пустую далонь, а не жменю з цэнтамі. Карацей, жабрацтва, як прастытуцыю, варта ўзаконіць, узяць пад магутнае крыло дзяржавы. Трэба ліцэнзіі на жабрацтва выдаваць і падатак браць. Калі чалавек хоча ахвяроўваць грошы, хай ахвяруе. Для ахвяраў трэба даць магчымасць самую шырокую і законную...

Толькі я не дзяржаўны дзеяч і не законатворца, каб нешта-нейкае ўзаконьваць ды ліцэнзіі выдаваць. Я зусім іншага кшталту чалавек... Якога? А такога... Калі ўвесну людзі ходзяць па кветкі-падснежнікі ў лес, я гэтым часам хаджу збіраць грошы. Снягі сыходзяць, і з-пад снегу ды лёду выходзяць на

паверхню згубленыя зімою манеткі ды банкноты. О, як прыгожа квітнеюць грошы ў бруднай вільгаці! Чыстая краса. Яшчэ школьнікам я палюбіў вясну за квітненне капеек. За адзін паход назбірваў на рубель.

Пэўна, таму я і азірнуўся, калі пачуў звон манеты ў кубку жабрака.

# КАНТРАБАСІСТ, КЛЮЧ І ЧАРАВІКІ З КРАКАДЗІЛАВАЙ СКУРЫ

Чаравікі з кракадзілавай скуры выглядаюць нахабна. У нашым горадзе яны глядзяцца нахабна зусім. Ведаю! Але мне падабаецца залакіраваная скурка кракадайла. Кошт мне зусім не спадабаўся. 1650 еўра за адзін чаравік. Каму спадабаецца? 3500 выкласці за абутак не кожны зможа, далёка не кожны. Я змог, я падняў, я выклаў. Цяпер сяджу ў бары «Кафеін», закінуўу нагу за нагу і раздзімаюся ад пыхі за свае абкракадзіленыя ступакі. Бляск! Шык! Прыгажосць! Жосць!!!

У «Кафеіне» мой бляск і пачынаўся. На сотавік прыляцела эсэмэска з прапановай сустрэцца і пагаварыць. Чаму не? Я выбраў «Кафеін», прыйшоў, тады яшчэ

ў сціплых макасінах «Бэйліс», сеў, каву замовіў і прычакаў барадатага таўстуна. Ён не стаў цягнуць ката за... хвост.

— Ты любіш кантрабас? — запытаў таўстун.

— Мой імпрэсарыа мусіў табе усё сказаць пра нашую музыку...

— Сказаў... Пра адрэналінавую музыку ў тваёй крыві.

— Можа, абыдземся без крыві?

— Ты мусіш моцна пастарацца, каб ніякай крыві не было.

— Я стараны выканаўца.

— І канрабас ты любіш.

— Дакладней, я люблю і ўмею кантрабасіць. Можна нават сказаць, што я віртуозны кантрабандыст, а кантрабасіст — нулявы. Скажу праўду, толькі праўду і нічога акрамя праўды... Я ніколі не граў на кантрабасе ні кантры, ні джаз. Часам думаю, што мне варта навучыцца перабіраць тоўстыя струны.

Ды часу брак. А ў кантрабаса выдатны футарал, змястоўны такі футарал. Туды можна нават труп запакаваць.

— Многа гаворыш, — таўстун выказаў прыкметнае незадавальненне.

Мне на ягоную незадаволенасць было напляваць. Не люблю я людзей без шыі. Бываюць такія. Спіна падпаўзае да патыліцы, а падбароддзе раздзімаецца і спаўзае да самых грудзей. Шыя прападае, ад яе застаецца адно складка. Такі абясшыяны чалавек зазвычай адпускае бараду, але падобны хітрык не дадае шыі. Такому трэба меней жэрці гарэлку. Толькі без гарэлкі ён не ўяўляе свайго крымінальнага жыцця. Без шыі ён навучыўся абыходзіцца, а без 50 грамаў у гадзіну не можа пратрываць.

Мой абясшыяны таўстун замовіў дозу, пракаўтнуў яе і ўспацеў. Такі не можа зрабіць справу і не ўспацець. Яго лоб абсыпаўся потнымі пацеркамі.

— Футарал у кантрабаса занадта прыкметны, — задуменна прамовіў успатнелы таўкач.

— Футарал забярэ на сябе асноўную ўвагу мытнікаў і памежнікаў. Яны будуць аглядаць кантрабас з футаралам, а кантрабанду не заўважаць.

— Ты страціш мабільнасць... Хопіць лірыкі. Цяпер да справы... У машыне тайнік, у тайніку пакет, у пакеце мільён еўра купюрамі па 500, дзве тысячы купюраў у дваццаці пачках. Ты пераганяеш машыну праз мяжу, ускрываеш тайнік, дастаеш пакет, нясеш яго ў Рызе да нашага чалавека, здаеш пад распіску 20 пачак, вяртаешся ў Мінск і атрымліваеш свае 2500.

Ніколі не быў я сквапны, але ганарар мне падаўся замалым. Мой імпрэсарыа адкусвае дзесяць адсоткаў. Што застаецца? Адзін чаравік з кракайдайлікавай спіны? Варта патаргавацца:

— Чаму не 5000?

— Таму што 2500 атрымае яшчэ і той, хто будзе за табою сачыць.

— І сачыць ён будзе за мною нахабна. Я правільна разумею?

— Твой імпрэсарыа цябе перахвальваў. Ён забыўся мне сказаць, што ты языкаты. Ты правільна ўсё зразумеў. Правільна. Наш чалавек будзе сачыць за табою неадчэпна, будзе вісець за табой хвастом. Уцякаць не раю. Мы прычэпім табе такі хвост, што як што кепскае здарыцца, дык хвост той абматаецца вакол тваёй доўгай прыгожай шыі і задавіць.

— Не трэба каркаць. Усё будзе ОК...

Я ўсміхаўся, я гаварыў цёплым голасам, я быў лагодны і мяккі, хоць ты бяры і прыкладай мяне да смяротнай раны. А ўсярэдзіне я напаўняўся жалезам, халодным і цяжкім. Потны таўстун прасёк, што падчапіў мяне, і пачаў даціскаць:

— Крыві не будзе. Цябе задушаць акуратна.

— Буду супрацiўляцца. Што не кажы, а галава ўсё ж разумнейшая за хвост.

— Не раю памнажаць свае пакуты. Рай на тым свеце табе не свеціць. Таму лепей на гэтым пакутваць паменей.

— У рай я не спяшаюся. Але і тут, на грэшнай зямлі, хвост чалавеку моцна замінае. Чалавеку лепей абыходзіцца без хваста. Хвастаты чалавек выглядае недарэчна і чортааблічна.

— Не табе вырашаць пра хвост. Твая справа маленькая, роўна на 2500. Зробіш — і атрымаеш. Схібіш — здохнеш. Сказалі табе, што будзе ахоўнік, значыцца ахоўнік будзе.

Настрой у мяне сапсаваўся. Мусіць з-за месца. Паганае гэта месца — «Кафеін». Я сюды прыходжу толькі таму, што гэты бар побач з кансерваторыяй. А ў кансерваторыі я некалі вучыўся.

Сантымент маю да кансерваторыі і да фартапіяна. А больш ніякіх станоўчых якасцяў у «Кафеіне» няма. Зусім побач з кансерваторыяй дабудоўваецца пяцізорачны гатэль «Еўропа». Пяцізорачны гатэль — мой фармат. Мяркую, што буду туды заходзіць на каву. Толькі з потным разбяруся спачатку.

— Ты папярэдзь мой хвост, каб ён мяне ахоўваў, каб не замінаў працаваць і не будзіў ува мне звяругу.

— Мо табе адмовіцца ад работы? Іншы канрабансіст знойдзецца на тры пятнаццаць. Дзве з паловаю штукі на зямлі не валяюцца. Хіба не?

— Мне чужая машына не патрэбна. Я буду працаваць на сваёй. Чужая выкліча лішнюю ўвагу, як той футарал ад кантрабаса.

— А тайнік?

— Павязу на сабе. Так надзейней. Так больш мабільна. Так грошы будуць бліжэй да сэрца.

— Хіба ў такіх, як ты, ёсць сэрца? У кантрабансіста замест сэрца мусібыць рухавік.

— Работа ў нас такая. Хваляванні нам замінаюць працаваць...

Не скажу, што я не хваляваўся. Хваляваўся, канешне. Так, з лёгкім хваляваннем, я і зарабіў свой першы мільён еўра.

Кантрабас усё ж не мая спецыялізацыя. Мая спецыяльнасць — флейта, такая флейта з аптычным прыцэлам. На ёй я лёгка магу ўзяць самую высокую ноту. А ўзяўшы ноту, можна і адпачыць у чаравіках з мяккай кракадайлавай скуры.

*Каб я быў літаратарам сярэдняй рукі, я б пісаў дэтэктывы пра крутых хлопцаў, якія за мільён еўра гатовыя пастраляць сваіх найлепшых сяброў. Але ў мяне няма сярэдняй рукі, толькі правая і левая, я —*

*праўша і пішу збольшага правай рукою. Праваручнае пісанне вымагае быць шчырым і аддаваць перавагу рэальным падзеям, а не навыдумляным калізіям. Таму пачну з дарагіх чаравікаў.*

*Мне спадабаліся чаравікі за 3300 еўра, і справа не ў кошце, а ў якасці. Чаравікі з кракадзілавай скуры насіліся б доўга, а фірма «Зенія» яшчэ і гарантуе якасць пашыву. Памераць тыя нязносныя чаравікі я памераў, а набываць не стаў. І не таму, што я не магу набыць такія чаравікі, а таму, што да такога кошту трэба прывыкаць. Трэба хадзіць па Барселоне і думаць пра чаравікі за тры тысячы. А да коштаў на джынсы прывыкаць не трэба, я набыў сабе джынсы і пакінуў, каб іх пакарацілі.*

*Праз тры дні надышоў час забіраць джынсы, а чэк на джынсы запрапаў. Мне падавалася, што чэк той я аддаў жонцы, а жонцы падавалася, што чэк застаўся*

*ў мяне. Мы абшукалі ўвесь нумар, перавярнулі ўсё дагары нагамі, і нарэшце я знайшоў чэк у сваім журналісцкім пасведчанні. Ну бывае, ну забываюся на розную драбязу. Ну давялося папрасіць прабачэння ў жонкі. У краме мы забралі джынсы, а каб жонка суцешылася, мы набылі ёй шорты. Да кошту на кракадзілавыя чаравікі я яшчэ не прывык. Таму мы пайшлі ў іншую краму і я набыў сабе чорна-вішнёвыя чаравікі «Прада».*

*У сваім гатэлі мы выпілі кавы ў бары на першым паверсе. Мы любім пасядзець у самую спёку пад парасонам каля басейна і паглядзець на мора. Звычайная рэч у адпачынку — сузіранне марскога далягляда...*

*У нумары жонка спытала:*

*— А дзе ключ ад сейфа?*

*— У цябе.*

*— У мяне няма, ключ у цябе...*

*— Гэта ў мяне няма ключа, бо, калі мы шукалі чэк, я аддаў табе ключ...*

*— Цяпер не важна у каго з нас быў ключ, цяпер важна ключ знайсці і паглядзець, ці на месцы грошы з дакументамі.*

*Жонка мела рацыю, але мне не стала лягчэй ад яе рацыі, бо атрымлівалася, што раз я забыўся чэк, значыцца і ключ згубіў я. А я выдатна памятаю, што аддаў гэты чортаў ключ жонцы.*

*— Ты памятаеш, як я атдаваў табе ключ?*

*— Не, я не памятаю, я розныя дробязі не запамінаю... У цябе той ключ ці ў мяне, якая розніца...*

*Мы пераварочвалі нумар з ног на галаву, з галавы на ногі, але ключа нідзе не было.*

*— Можа, у бары згубілі? — спытала сама ў сябе жонка і пайшла ў бар.*

*Я ў дзясяты раз выклаў усе рэчы з сумкі і склаў іх назад. Я зазірнуў пад тэлевізар. Перабраў усе рэчы ў шафе. Я нават смецце*

*са сметніц павытрасаў, перабраў і назад паскладаў.*

*У бары ключа ніхто не бачыў. Парцье прынёс запасны ключ. Мы адчынілі сейф, і я пабачыў пашпарты і грошы. Стала лягчэй, і можна было зноў пачынаць прывыкаць да коштаў на шузы з кракадайла. Парцье сказаў, што памяняць замок у сейфе яны змогуць толькі раніцай, а да раніцы ключ будзе толькі ў рэцэпцыі. Мы можам забраць усё сваё з сейфа, а можам усё там пакінуць да раніцы. Мы ўсё пакінулі. Парцье сышоў.*

*— Давай успомнім, у каго быў ключ?*

*Мы спрабавалі аднавіць у памяці той момант, калі адчыняўся і зачыняўся сейф, але памяць нам здраджвала, бо тады ўся ўвага была нацэлена на чэк. Мы да драбніц помнілі, як знайшлі чэк, і зусім не памяталі, дзе падзелі ключ. Жонка пайшла ў краму з кракадзілавымі чаравікамі, а я ў краму, дзе набыў чаравікі вішнёва-чорныя. Па*

*адной версіі жонка згубіла ключ, калі мерала шорты, а па другой — я, калі прымяраў чаравікі. Абедзьве версіі былі памылковыя. Ні ў адной з крам ключа ніхто не бачыў.*

*Мяне душыла злосць. Злосць на сябе, на сваю памяць, на жонку, на ўвесь гэты гідкі свет, з ягонымі ключамі, чэкамі, грашыма і чаравікамі. Каб нікому ў гатэлі не даць у морду, я пайшоў гуляць па Баселоне. Я ішоў і ішоў, бязмэтна. Зайшоў у бар, сеў, замовіў каву, зрабіў горкі глыток, заплюшчыў вочы і атрымаў эсэмэску: «Ура, ключ знайшоўся!» Я набраў жончын нумар:*

*— Бармен у нашым гатэльным бары знайшоў яго пад сталом. Яны спачатку нічога не знайшлі, а калі пачалі мыць падлогу, убачылі ключ пад ножкай стала. Я вельмі радуюся, а ты?*

*Я не ўзрадаваўся... Не, я, канешне, узрадаваўся, але зусім не так, як хацелася б, то ж бо мы цяпер ніколі не высветлім,*

*хто з нас згубіў гэты чортаў ключ. Зрэшты:*

*— Я радуюся. Давай сустрэнемся ў горадзе і прагуляемся...*

*Мы сустрэліся і прагуляліся пешкі да гатэля. Па дарозе мы зайшлі ў краму, дзе зазвычай набываем віно. Гаспадар крамы вырашыў прадаць сваё памяшканне і таму распрадаваў напоі за паўцаны. Жонка выбрала шампанскае:*

*— Плаціць не трэба. Прэзент ад крамы!*

*Прадавач быў п'яны ў дым, а таму вясёлы і шчодры.*

*З гатэльнага нумара выдатны від на мора. Мы сядзелі на гаўбцы. Пілося шампанскае. Мы адчувалі сябе сапраўднымі аперытыўнікамі, якія штодня шануюць святую гадзіну з аперытывам перад вячэраю. Мы вырашылі падарыць бармену, які знайшоў наш ключ ад сейфа, маленечкую шакаладу «Алёнка» і 10 еўра.*

*Бармен з радасцю ўзяў пачастунак-падарунак. На гэтым гісторыя з ключом і скончылася. Але не скончылася маё самаіранічнае апавяданне...*

Наступным днём з ключом ад сейфа ў кішэні новых нагавіцаў я стаяў на бульвары Лас Рамблас і разглядаў часопісны шапік. Увагу спыніў вялікі чорна-белы постар NEWS OF THE WORLD. Навіна сусветнага значэння каго хочаш зачэпіць, тым больш, што наступны радок прапаноўваў 2 мільёны еўра таму, хто знойдзе дзяўчынку. Белавалосае ўсмешлівае пяцігадовае дзяўчо глядзела на мяне з постара. Дзіўна, але яна не прасіла мяне яе знаходзіць. Яна, пэўна, глядзела на сваю добрую маму, якая яе фатаграфавала. Пад здымкам тлуста чарнелі лічбы тэлефоннага нумара партугальскай паліцыі 00 351 282 405 400. Так можна пачынаць дэтэктыўны раман,

у якім геніяльны следчы абавязкова знойдзе дзяўчынку і пакарае мярзотнага выкрадальніка. А ў жыцці... А хто яго ведае, як яно будзе ў гэтым непрадказальным жыцці. Я нават сам не ведаю простых рэчаў. Вось не ведаю, напрыклад, ці набуду я сабе чаравікі з кракадзілавай скуры.

# СПАКОЙ

Увечары сесці ў сваё вялікае скуранное крэсла і супакоіцца... Што можа быць лепей? Хіба той выпадак, калі побач з крэслам проста на падлозе будзе стаяць літровая бутэлька з віскі. На падлакотніку пажадана трымаць невялічкую попельніцу. Ты пакурваеш цыгарэтку. Ты глынаеш віскі. Ты сядзіш у крэсле. Усё атрымалася. Пакой паціху патанае ў шарай гадзіне, а потым і ў начным змроку. Святло не ўключаецца. Нашто? Нават пытанне такое не задаецца. Тытунь. Віскі. Крэсла і цішыня.

Крэсла сваё ты ўпершыню пабачыў у Празе. Праходзіў побач з чорнай Парахавой вежай і ў вітрыне пабачыў скуранное крэсла. Яно было падобнае да невялікага бегемота. Нават колер скуры на ім быў бегемотны. Ты ўявіў сябе ў тым

крэсле і моцна пашкадаваў пра ўяўленне, бо крэсла выглядала тваім; а набыць яго ў Празе і прывезці ў Мінск — тады было не рэальна. Нашто жадаць тое, чаго ніколі не зможаш займець? Каб жа хто ведаў адказ? Гады з тры ты згадваў пабачанае ў Празе крэсла, ажно пакуль не напаткаў яго ў музейным дамку першага з’езду РСДРП. У дамку зрабілі краму і прадавалі галанскую мэблю — канапы і крэслы. Сярод розных іншых крэслаў стаяла і тваё — бегемотнае. Замест таго, каб набыць сабе крэсла-мару, ты патэлефанаваў у газету «Свабода» і надыктаваў Ігару Герменчуку інфармацыю пра тое, як музей імперскіх сацыял-дэмакратаў ператварыўся ў мэблевую крамку з дарагімі крэсламі ды канапамі. Матэрыял пра метамарфозу музея нават выйшаў у наступную раніцу. Але выхад матэрыяла цябе ўжо не хваляваў, бо ты супакоіў сябе тым, што

набыў доўгачаканае і доўгажаданае крэсла. Набыў і паставіў у мастакоўскай майстэрні побач з кніжнымі стэлажамі.

Цяпер ты мог гадзінамі сядзець у любімым крэсле. Мог у ім чытаць, гартаць-разглядаць альбомы з рэпрадукцыямі. Мог курыць і нават мог піць віскі.

Тым разам ты выпіў амаль цэлую бутэльку. Выкурыў амаль пачак цыгарэт. Ты мусіў ап’янець і заснуць. Замест таго каб паспаць і прачнуцца, ты вырашыў заснуць і больш не прачынацца. Нашто прачынацца? Можна выпіць упакоўку сонных пігулак і заснуць моцна-моцна.

Патрэбныя пігулкі ў цябе былі падрыхтаваныя. Ты рыхтаваўся да засынання. Ты іх набыў у КарлавыхВарах. Зайшоў у аптэку і патлумачыў жанчыне ў белым халацíку, што нервуешся і кепска спіш. Яна, вядома, спытала пра рэцэпт, а ты ёй паказаў пазычаную ў бацькоў

пустую ўпакоўку. Яна табе паверыла і прадала супакаяльнае без рэцэпта. Яна зразумела тваю праблему. А можа, яна — таемная прыхільніца эўтаназіі. Хто ведае. Адным словам — аптэкарка дапамагла з пігулкамі. Магла б не прадаць, а яна прадала і ўслед сказала, што больш за адну пігулку прымаць нельга.

Перад тым як вылушчыць пігулкі з упакоўкі, ты згадаў заснежаныя карлаварскія горы, маленькія разнакаляровыя дамкі, цукерачныя і вінныя крамкі. У Карлсбадзе табе заўсёды было добра, бо ты там супакойваўся. Успамінаючы карлсбадцкі снегапад ты і праглынуў пігулкі. Праглынуў і дапіў віскі. Пустую бутэльку ты паклаў на падлогу. Не паставіў, а менавіта паклаў каля плінтуса. Пасля пігулак і віскі ты не мог не закурыць. Закурыў. Курыў павольна. Ты добра памятаеш, як павольна курыў і дакурыў

цыгарэту. Ты затушыў акурак у попельніцы. Заснуў. Ты выдатна памятаеш, як заснуў, але ты не можаш успомніць — хто цябе пабудзіў. Нехта прыйшоў і пабудзіў цябе. Калі ты расплюшчыў вочы, нікога ўжо не было. Ты не пабачыў таго, хто цябе будзіў. Нехта нешта гучна сказаў, нават не сказаў, а крыкнуў. Ад крыку ты прахапіўся. Ты пашукаў вачыма таго, хто крыкнуў, і, не знайшоўшы, хацеў быў зноўку заснуць. Бог мой, як табе хацелася заснуць, а замест гэтага ты ўзяў тэлефон і набраў нумар натуршчыцы Тамары:

— Выбачай... Мусіў пачаць інакш, але пачну з прабачэння. Больш за ўсё на свеце не люблю прасіць прабачэння. Наогул не люблю прасіць, а прасіць прабачэння — пагатоў. Ты мне верыш?

— Тэлефануеш а дванаццатай ночы, каб папрасіць прабачэння? Выдатна! Толькі ты забыўся ўдакладніць, за што

менавіта ты просіш прабачэння. Ці ты просіш прабачэння за позні званок?

— За начны званок таксама прашу... Але за яго ў апошнюю чаргу. Асноўнага прабачэння я прашу за тое, што зараз моцна цябе абцяжару.

— Ты мяне абцяжарыш? І чым ты можаш абцяжарыць праз тэлефон? Ты проста перабраў з выпіўкай, ты абцяжарыў сябе ап'яненнем, ты кепска цяміш!

— Усё праўда... Выпіў, ап'янеў і вырашыў спакойна сыйсці з жыцця. Каб не рабіць вялікіх праблем, я выпіў цэлую ўпакоўку супакаяльных пігулак. Цяпер моцна хочацца спаць. Хочацца супакоіцца і заснуць. Праз хвілін пяць я абавязкова засну...

— Ты выпіў супакаяльнае? Сапраўды? Узяў і выпіў цэлы пачак таблетак? Ты не жартуеш? Стой... Ну вядома, ты напіўся, табе сумна, і ты вырашыў такім чынам

запрасіць мяне ў госці. Ты думаеш, што я б не прыйшла проста так, а таму і выдумаў пра таблеткі і самазабойства? Скажы — выдумаў? Прызнавайся!

— Не выдумаў.

— Ты заснеш і не прачнешся?

— Хутчэй за ўсё…

— Ты ў майстэрні? У тваёй майстэрні дзверы зачыненыя?

— Вядома, зачыненыя…

— Ідзі і адчыні дзверы… Калі я прыеду, дзверы павінны быць адчыненыя. Хай гэта будзе апошні твой учынак у гэтым жыцці, але ты мусіш пайсці і адчыніць дзверы, а потым можаш засынаць… Можаш нават пад дзвярыма легчы і заснуць.

— Ты дазваляеш мне заснуць і ў сне сысці з жыцця?

— Дазваляю! Адна ўмова — адчыненыя дзверы. Схадзі адчыні дзверы і скажы ў слухаўку, што ты іх адчыніў…

Ты ўстанеш, ты пойдзеш, цябе будзе моцна хістаць. Цябе будзе так хістаць, што ты ледзь дойдзеш да дзвярэй. Цябе не моцна здзівіць той факт, што дзверы ў майстэрню не будуць зачыненыя на ключ. Ты забыўся іх зачыніць. Проста забыўся. Ты скажаш у слухаўку, што дзверы адчыненыя, ляжаш на падлогу і заснеш. Ты заснеш назаўжды. Першы раз у жыцці ты заснеш, каб не прачынацца.

Ты б і не прачнуўся, каб не людзі. У майстэрні будзе шмат людзей.

Кіраваць імі будзе твая натуршчыца Тамара. Яна прыедзе не адна. Яна прыедзе з сяброўкай Валянцінай. У Валянціны на руках будзе сядзець кот Чарлі. Не кот, а кароль катоў — блакітнавокі сіямец. Ты назавеш яго Гарык. Ты выдатна ведаеш, што ката клічуць Чарлі, але твой язык назаве яго Гарыкам. Языка будзе ў тваім роце зашмат, бо дактары са службы хуткай дапамогі будуць прамываць табе

страўнік. Ты будзеш піць і ванітаваць, піць і ванітаваць, піць і…

Свядомасць вернецца. Розум зробіцца ясным. Ты назавеш Чарліка Гарыкам. Потым засяродзішся і скажаш:

— Валя, выбачай, я цудоўна ведаю, што твайго сіямца завуць Чарлік. Гарыкам я называў яго дзеля жарту.

Пасля таго, як да ката вернецца ягонае сапраўднае імя, Валя развітаецца і паедзе дамоў. У яе машына. Яна з Га… Чарлі выправіцца дамоў на «опелі». А ты разам з дактарамі і натуршчыцай Тамарай паедзеш у бальніцу. Там цябе пасадзяць у калідоры і загадаюць чакаць доктара. Добра, што перад выездам ты складзеш свежую кашулю і пацiху засунеш у кішэнь грошы. Каб у бальнічным калідоры не сумаваць, ты станеш весяліць Тамару. Ты раскажаш ёй казку пра Задніцу і Пярэдніцу…

Сустрэліся аднойчы Задніца і Пярэдніца. Задніца пачала настойваць,

што яна значна прыгажэйшая за Пярэдніцу; на што Пярэдніца запярэчыла, маўляў, гэта яна прыгажуня з прыгажунь, а Задніца — пачвара. Спрэчку Пярэдніцы з Задніцай пачуў мастак. Ён сказаў усхваляваным жанчынам, што калі Задніцу і Пярэдніцу паставіць на подыум, а потым паглядзець на іх з супрацьлеглага боку, дык Задніца будзе выглядаць Пярэдніцай, а Пярэдніца стане рыхтых Задніца. Таму ён — мастак — згодны намаляваць ажно дзве двайныя пастаноўкі, дзе Задніца будзе Задніцай і Пярэдніцай, а Пярэдніца будзе Пярэдніцай і Задніцай. Так і скончылася спрэчка — замірэннем.

Казка скончылася, і прышоў доктар — малады і абаяльны. Такі абаяльны, што можа лёгка падмануць каго заўгодна. Каго заўгодна, але не цябе. Ты адразу адчуеш небяспеку. Такі абаяльны можа

адпусціць цябе на ўсе чатыры бакі, а можа прымусіць шукаць пяты кут у квадрата. Калі доктар убачыць у табе вар'ята, будзе вельмі цяжка выйсці з бальніцы. Таму дзейнічаць ты вырашыў асцярожна. Усе свае адказы на пытанні маладога доктара ты абдумваў. Першае пытанне было простае:

— Напіліся?

— Напіўся...

— Была нагода, каб так моцна напівацца?

— Была... Яна сышла ад мяне. Пакінула мяне. Я і ўчапіўся ў бутэльку...

— Раней не спрабавалі скончыць жыццё самагубствам?

— Не... Я і зараз не спрабаваў... Хацеў вярнуць Тамару. У п'яную галаву ніякіх разумных захадаў не прыходзіла. Прыдумалася гісторыя з супакаяльным...

— Калі я вас зараз адпушчу, вы не пойдзеце набываць таблеткі? Не?

Ты адчуеш, што надышоў вырашальны момант і варта пайсці ў атаку. Трэба пайсці ў атаку і выйграць двубой з доктарам:

— Не пайду! Я нават грошы магу Вам аддаць. Я тут падрыхтаваў на ўсялякі выпадак адну паперку. Вам яна цяпер спатрэбіцца больш, чым мне. Тамара вярнулася, яна і адвязе мяне дамоў на таксоўцы…

Гаворачы пра Тамару, ты падыдзеш да доктара і пакладзеш яму ў кішэню сто еўра. Не такія і вялікія грошы, але іх будзе дастаткова, каб выйсці з бальніцы.

На бальнічным ганку будзе ляжаць снег. Ты ўзрадуешся гэтаму снегу, як дзіця. Ты крыху адыдзеш ад бальніцы. Набярэш поўныя прыгаршчы снегу і абмыеш ім твар. Ты абатрэш мокры твар мяккім шалікам і разам з Тамарай пойдзеш на таксовачны прыпынак. Таксоўка хутка павязе вас праз начны горад, з ускраіны ў самы цэнтр.

# САМАЯ ЦЯЖКАЯ ПРАЦА НА СВЕЦЕ

Самая цяжкая праца на свеце — адпачываць. Не трэба смяяцца, я цябе прашу. Давай пройдземся разам праз адзін звычайны дзень адпачынніка. Каб цябе пераканаць, я вазьму свой дзень.

У адпачынку трэба ўставаць як раней. Гэта дома можна паваляцца ў ложку. Дома заўсёды шмат часу, і ён — малакаштоўны. У адпачынку брак часу, і ён вельмі каштоўны. Тут кожная хвіліна на ўліку. Таму ніякіх валянняў у ложку. Прачнуўся і ўскочыў.

Зарадку трэба рабіць сумленна. Нельга прапускаць практыкаванні. Дома ты можаш прысесці дзевяць разоў замест дзесяці. У адпачынку лепей прысесці адзінаццаць замест дзесяці, каб парадаваць самога сябе ўласнай

сумленнасцю. У адпачынку ты робіш не проста зарадку для сябе, ты робіш яе для сябе ў квадраце, нават у кубе робіш. Мне казалі абазнаныя людзі, што самая сумленная і самая дасканалая зарадка робіцца ў турме. Веру. Я і ў адпачынку раблю дасканала, таму ў турму ці лагер мне не трэба.

Галіцца ў адпачынку трэба на выдатна, бо навокал процьма чужых вачэй і чужых, адпаведна — злых языкоў. Галюся да рыпучасці скуры на шчоках.

Пакуль я галюся, у шклянцы запарваецца кава. У адпачынку ў мяне заўсёды электрагарбатнік. Раней ездзіў з электракіпяцільнікам, бо невялічкага гарбатнічка не мог сабе прыдбаць. Знайшоў і прыдбаў. Хто шукае, той і знаходзіць. Знайшоў, і цяпер не мучаюся з кіпяцільнікам, не абварваю рукі кіпенем. Акуратна запарваю каву, якую выпіваю пасля галення. Стаю на

гаўбцы, гляджу на мора і маленькімі глыточкамі выпіваю першую за дзень каву. Я б і вялікімі глыткамі выпіў, каб толькі змог.

Цяпер на мора. Ну і хай сабе вада ледзяная. Яна ледзяная толькі ў першыя імгненні, калі зайдзеш па... і прысядзеш. Яна цябе апячэ ўсяго чыста і супакоіцца. Цяпер можна плыць. Галоўнае — не спыняцца. Галоўнае — плыць у бок далягляда. Ёсць толькі мора, неба і ты.

Трэба плыць і не думаць пра сутаргу. Яна можа скруціць цяглiцу. У мяне такое здараецца — пасярод ночы цяглiцу скручвае сутарга. Прачынаешся і хочацца закрычаць. Трываеш, каб не пабудзіць каго. Масаж робіш. Трэш яе, трэш. Такі трэш, што не дай ты Бог. У спартоўцаў цікавіўся, што трэба рабіць. Сказалі: трэба піць нейкі «магнатэ», нейкі магній. Так я і не купіў

сабе «магнатэ». Галоўнае, што я ведаю пра «магнатэ», і ад такіх ведаў робіцца спакайней. Сутаргі не баюся. Згадаю «магнатэ» — і думкі пра сутаргу ўцякаюць. Думкі ўцякаюць, а ты плывеш да стомы. Цяпер цёпла. Цяпер можна не спяшацца, нібыта на пажар. Цяпер можна павольна вяртацца да берага. Да скалаў. Да пляжнага пяску. Стоячы на ім, трэба абцерціся ручніком да таго, каб скура ажно гарэла. Потым ускласці майткі... Не сказаў. Цяпер я ў майтках і магу спакойна сказаць, што плаваю я галяком. А ты і не заўважыў! Менавіта — га-ля-ком. Я ж табе казаў, што ёсць мора, неба і я. Пра майткі я не казаў.

У такія хвіліны сам сябе паважаеш. Змог. Зрабіў. Праплыў. Ёсць свае цяжкасці. Як без іх? Ніяк. У халоднай вадзе чэлеса не відаць... Гэта пра купанне раніцай у моры галяком. Праўда. Крыху ўсё ж чэлес відаць. Зусім крышку, але

ёсць. Каб вярнуць чэлес са сцятага ў нармальны стан, трэба бегчы. Пасля плавання трэба бегаць. Бягу. Уздоўж хвалі. Ад адной скалы да другой скалы. Дабягаю да скалы прыкладаю руку да каменя і назад бягу. Добра, што пляж паміж скалаў. Мне так зручна бегаць, бо добра бачу, колькі засталося бегчы, і разлічваю сілы.

Набегваюся да сугрэву, да пульсацыі крыві ў скронях і вяртаюся ў нумар, дзе залажу пад прэсны душ. Трэба пазмываць з сябе брудны пясок і соль. Змываю пясок і соль гарачай вадою. Асабліва добра прамываю падмышкі ды пахавінне. Не прамыеш — і пасціраеш скуру. Сціраў. Ведаю. Потым яна доўга не хоча гаіцца. Лепей адразу добра прамыцца і якім крэмам працерціся. Крышачку крэма не зашкодзіць. Пагатоў, яго ў гатэльным душы колькі хочаш.

Пасля душа. У свежай пасястай марсканастройнай маечцы іду снедаць.

У сняданку галоўнае — не спяшацца. Пасля вады апаноўвае голад. Трэба сябе стрымліваць. Пачаць лепей за ўсё з глытка гарачай чорнай гарбаты. Мне такі пачатак падабаецца. Пасля халоднага мора і кантраснага душа глыток духмянай гарбаты танізуе, дадае дабрыні ў настрой. У добрым настроі можна падыходзіць да кухара і замаўляць амлет з цыбуляй, беконам і грыбамі. Нехта любіць таматы ў амлеце, а я ні таматы, ні гарох у амлеце не люблю. Да амлета я бяру пару скрылікаў каўбасы з аліўкамі, бяру яшчэ абсмажаную сасіску і пялёстак хамону. Да хамону я раблю грэнку з маслам. Без пахрумствання хлебнай скарынкі — сняданак і не сняданак, лічы. Яшчэ бяру садавіну. Ананас мусібыць цёпла-жоўты, тады ён салодкі. Калі ананас бякла-

жаўтлявы, ён страшэнна кіслы. Такі кіслы ананас будзе цябе есці, а не ты яго. Дыня і кавун не павінны быць травяніста-прэснымі, яны мусяць мець цукровы смак. Калі пачуеш травяністасць — такі кавун ці такую дыню лепей адкласці. Чарэшню я выбіраю, каб з хвосцікамі. Магу есці і без хвосцікаў, але перад тым, як закінуць у рот ягаду, мне вельмі прыемна патрымаць яе над талеркай за тонкі хвосцік. Пасля садавіны — падвоенае эспрэса і глыток прахалоднай вады як кропка.

Цяпер нават без заходу ў гатэльны нумар можна выпраўляцца ў горад. Ён чакае мяне. Заўсёды. Можаш не сумнявацца. Горад маіх адпачынкаў — Барселона.

Цэлы год я збіраюся ў адпачынак. Цэлы год Барселона чакае мяне. Цэлы год я пішу спіс патрэбных спраў у Барселоне.

У адпачынку ў мяне ёсць спіс, а ў ім — пералік спраў, якія абавязкова трэба зрабіць у Барселоне сёлета. У маім спісе пунктаў трыццаць. Я спрабаваў скараціць да дваццаці. Кожны год я абяцаю скараціць спіс, а ён замест таго, каб скараціцца, — распаўзаецца… Падарункі блізкім не скароціш. Вопратку трэба набываць, як і абутак. Музеі, выставы і канцэрты пажадана не прапускаць. Матэрыялы для мастакоўскай працы лепей прыдбаць у Барселоне, чым у Мінску ці якой Вільні. Тудэма-сюдэма, тое-сёе, гэтае-такое і набягае ўсе сорак пунктаў. Я вяду з колькасцю змаганне і часам вяртаюся да звычайных і заўсёдных трыццаці пунктаў.

Адпачынак без закупаў для мяне і не адпачынак. Зрэшты, і шопінг без летняга адпачынку не шопінг.

За ўдалы дзень я магу выкрасліць тры пункты са спіса. Выканаць і выкрасліць.

Гэта калі пастарацца і калі без расслабонаў. Дапускаць расслабоны ў адпачынку нельга, бо, каб нешта нейкае перарабіць і выправіць, давядзецца чакаць цэлы год.

Напрыклад, сягоння я займуся толькі сваімі мастакоўскімі цацкамі — асадкі, пэндзлі і акварэльная папера. Усё прасцей простага. Заходжу ў шматпавярховы гіпермаркет… Заходжу і бачу, што ў гіпермаркеце ўсё зусім не так, як было раней. Няма таго, што раньш было. Гэта класік пра гіпермаркет напісаў. Ён думаў, што пра каханне піша, а ў яго атрымалася пра гіпермаркет, у якім спрытныя гандляры ўсё паперастаўлялі. Паездзіў я на эскалатарах і знайшоў фарбы, пэндзлі і паперу. Толькі той паперы, да якой я прызвычаіўся, цяпер няма. Ёсць іншая. Даводзіцца доўга выбіраць з таго, што ёсць. Узяў я паперу. Выкрасліў адзін

пункт. А радасць? Правільнае пытанне! Радасці няма, бо яшчэ невядома, як тая папера сябе павядзе пад амстэрдамскім акрылам. Адзін Бог ведае пра паводзіны гэтай паперы пад маімі пэндзлямі. Давядзецца паэксперыментаваць. Давядзецца правесці вопыты. Давядзецца зноў наноў прызвычайвацца.

Пэндзляў патрэбнага памеру няма. Можна шукаць далей, а можна ўзяць крышку большы памер. Зрок падае. Лінія павінна рабіцца больш выразнай і тлустай. Бяру большыя, чым планаваў, пэндзлі.

Засталося знайсці асадкі для пісання і малявання. Люблю пісаць і маляваць у нататніках. Без добрай асадкі ў кішэні я не адчуваю сябе камфортна. Так што асадкі я набуду, але спачатку вып'ю каву. Заеду на самы верх гіпермаркета, сяду ў кавярні над Барселонай. Вып'ю кубачак эспрэса без вады і цукру, каб адчуць горыч

свайго жыцця. Без такой каўнай горычы жыццё і не жыццё зусім.

Па дарозе з пентхаўса я выпадкова натрапіў на японскі аддзел з канцтаварамі. Набраўся асадак, як жаба гразі. Жаба — вельмі японская істота… Нехта лічыць іх бруднымі, а я лічу іх чыстымі. Гэта я так — між іншым. Асадак я ўзяў сабе восем штук. Розных. Калі што, дык дзве-тры магу каму і падарыць. Шэсць асадак на год — не так і шмат. Дзве абавязкова згубяцца. Асадкі маюць загану — губляюцца. А дарыць іх прыемна і лёгка. Узяў — і якой дзяўчынцы ці якому хлопчыку падарыў. Зрэшты, усіх не адорыш…

На гэтай малапрыемнай думцы я і спыніўся ў думках пра падарункі, бо з майго носа зваліліся акуляры. Яны зваліліся на эскалатар і паехалі ўніз, а я паскакаў за імі. Мае шкляныя акуляры скакалі, як тая жаба, па металёвых

прыступках. Пра кожны скачок акулябраў я думаў, што ён апошні. Думаў, што акуляры зараз разляцяцца на дробныя аскепкі, а яны скакалі і скакалі, як сапраўдная спрытная жаба. Я іх ледзь злавіў. Я іх падхапіў. Я іх начапіў на нос. Як я не паваліўся? Як не скруціў шыю на тым эскалатары? Не магу зразумець. Я саскочыў з рухомых прыступак і схапіўся рукою за сэрца. Быў упэўнены, што мне баліць менавіта сэрца. Але гэта мая правая рука трымалася за правы бок торса. Сэрца там ніколі і не было. Мусіць, я нейкую цягліцу крыху расцягнуў, скачучы па рабрыстых прыступках. Цяпер можна супакоіцца, можна крышачку пастаяць, можна палічыць да адзінаццаці…

Зазвычай людзі лічаць да дзесяці, а я лічу да адзінаццаці, а потым працягваю здзяйсняць свой план.

План такі — лёгкі перакусон перад сіестай. Хамон, гародніна і садавіна.

Трэба крышачку перакусіць, каб соладка спалася. Галодны чалавек кепска спіць, яму нізка пад галавой. Так у маім мястэчку, у маім родным Койданаве казалі. Без салодкіх дзённых сноў ты ўвесь адпачынак пусціш пад адхон. Каб не пусціць адпачынак пад адхон, я яшчэ перад сном чытаю паўстаронкі з «Дхамапады». Чытаю і падаю ў салодкі сон.

Сплю. Сню адпачынак. Што яшчэ я магу сніць? Магу, вядома, работу прысніць. З мяне станецца! Гэта не правільна, калі ў адпачынку ты сніш работу. Таму я ўсё раблю правільна і па плане — сню мора. Так і напішам... У адпачынку ён сніў мора. Дамовіліся? Акром нас, тут нікога няма! Як мы дамовімся — так яно і будзе. Карацей... Мора! Яно сакавіта-сіняе, такое сакавітае мора бывае пасля дажджу. Добра, калі ў адпачынку дождж пачаўся

і скончыўся ў сне, а ў рэальнасці яго зусім і не было.

Прачынаюся — і на мора паплаваць... Не! Пайду лепей у басейн. Пасля сіесты мне больш падабаецца спакойнае плаванне ў басейне. Там я бяру сабе вялікі сіні ручнік. Там перакідваюся прывітальнымі словамі з назіральнікам басейна. Каб я ведаў якую каталунскую, а ён ведаў якую беларускую, мы б маглі і гутарку завесці. Не ведаем і не заводзім. Нашто нам малапатрэбная гутарка. «Оля... Кеталь... Мувьен...» Кідаю ручнік на шэзлонг. У гэткім жэсце, у такім нязмушаным кіданні цёмна-сіняга ручніка на паласаты блакітна-белы шэзлонг — сканцэнтраваны ўвесь адпачынак. Жыццё атрымалася! Ручнік ляціць на шэзлонг. Каб у Беларусі было кіно, я б працаваў у тым кіно і здымаў бы фільм пра адпачынак, які пачынаўся б

з кідавання ручніка на шэзлонг. Бачыш? Як лёгка ён ляціць, як мякка ён падае… У Беларусі няма кіно, таму я кідаю ручнік проста дзеля невыноснай слодычы свайго быцця. Потым па прыступках няспешна спускаюся ў басейн. За паўдня вада ў басейне паспявае добра прагрэцца. У прагрэтай вадзе варта плаваць няспешна, з пачуццём годнасці, нават з пачуццём ягамосці. У гатэльным басейне я плаваю ў чорных акулярах. Для некага плаванне ў чорных акулярах можа выглядаць пыхлівасцю, а мне так падабаецца, бо зручна. Вочы трэба берагчы, бо што мае ўсе пэндзлі і паперы без зроку? Гурба смецця! Шкада, што пад душам нельга стаяць у чорных акулярах. Нельга, бо не зручна. Каб было зручна, я б нават галаву мыў, стоячы ў чорных акулярах.

Чыстая галава — мая фішка. У чыстай галаве — чыстыя думкі. З такімі

падыходамі да галавы я і жыву. Не толькі ў адпачынку, дарэчы.

З вымытай і светладумнай галавою я шыбую ў горад. Цяжкая праца зноў кліча. Я пакліканы. Сваё пакліканне я адчуў яшчэ ў дзяцінстве, калі быў у дзіцячым лагеры. Бацькі мяне паслалі на паўвыспу Крым у лагер «Артэк». Там я і пабачыў маленечкі сіні выратавальны круг. Ён прадаваўся ў сувенірным кіёску. Той маленькі кіёск працаваў толькі два дні на тыдні — субота і нядзеля. Цэлых тры дні я чакаў, каб кіёск адчыніўся. Ён адчыніўся і я за апошнія грошы набыў выратавальны круг — падарунак для мамы. Радасць была бязмежная, бяздонная была радасць. Нават не хочацца табе зараз казаць, што па дарозе з бруднага Крыма ў чыстую Беларусь выратавальны круг прапаў. Нехта скраў падарунак. У Мінск я прыехаў без падарунка, без сіняга

круга. Мама, вядома, усё адно радавалася майму вяртанню. А я ледзь не заплакаў, калі расказваў пра крадзеж. Цяпер я ўсе самыя каштоўныя падарункі трымаю ў дарозе пры сабе.

Цяпер я ўважлівы да людзей вакол сябе. Пільнасць змяншае верагоднасць крадзяжу. Таму я пільна і ўважліва вывучаю людзей. Вывучаю іх, каб зменшыць рызыкі. У адпачынку я вывучаю людзей пасля плавання ў басейне. У сувенірных лаўках я вывучаю прагу да малапатрэбнасці. У гіпермаркетах добра вывучаецца чалавечая і малачалавечая сквапнасць. Глядзіш, як сквапнік наладоўвае тавары ў драцяны воз, і дзіву даешся. Колькі ж чалавеку ўсяго трэба? У касцёлах, цэрквах, заапарках, школах і дзіцячых садах добра павывучаць чалавечую пыхлівасць. Там адзін чалавек лічыць сябе разумнейшым за розных іншых

істотаў, ён лічыць сябе нават роўным Богу. Цікава за такімі назіраць. Раней я любіў паназіраць за рознымі праявамі юрлівасці ў бардэлях, але цяпер я назіраю за чалавечым юрам праз інтэрнэт. Глядзіш на заафілію і розны брутальны анал з капрафагіяй, а табе нават і не смярдзіць. У рэале ты б захлынуўся смуродам. Цябе вывернула б, выкруціла б, скурчыла б... Ты на сабаку, якая сядзіць карчом пад кактусам, глядзець не можаш. Адварочваешся. Што пра людзей-серуноў казаць? Людзі? Ці людзі яны? Менавіта гэта ў іх і цікава... На стадыёнах і спортпляцоўках я вывучаю чалавечую злосць, лютасць, звераватасць. Зайзрасць можна назіраць паўсюль. Яна нейкая ўсюдыпрысутная. Іншая справа — ненажэрнасць, яна любіць добра абсталявацца ў барах і рэстарацях. Цікава паназіраць за ненажэрамі праз адчыненыя вокны на іх

кухнях. Лянота добра выстаўляецца на пляжах. На нудысцкіх пляжах яна нават аголеная. Там можна паназіраць і за панылацсю. Назіраю, сякія-такія назіранні замалёўваю і запісваю. Некага цікавяць грошы. Некага цікавяць матэматычныя абстракцыі. Некага — філалогія і філасофія. Мяне цікавяць людзі, чалавекі, двуногія без пёраў, з пляскатымі пазногцямі. Яны мяне натхняюць на бадзёрае і дзёрзкае жыццё сярод бруду і пылу.

Чым болей вакол мяне народу, тым мне лепей дыхаецца. Без чалавечай мітусні мне сумна. Таму я вячэраю ў шматлюдным рэстаране. Закусваю чырвонай рыбкай з ананасам. Частуюся паэльяй з чорнага рысу. Ем пражаныя скабкі ягняці са смажанай на грылі гароднінай. Гародніну кухар пасыпаў буйнай соллю. Крышталікі буйной солі надаюць гародніне паўднёвы смак.

Вугаль і соль. Чорнае і белае. Прэснае і вострае. Каб жа яшчэ глыток чырвонага… Глыток віна не зашкодзіў бы каму іншаму, а мне зашкодзіць. Віно не для такіх, як я. Мне трэба была гарэлка, з яе моцнасцю і празрыстасцю. Я выпіў гарэлкі столькі, колькі змог, і яшчэ столькі, колькі змог сябе прымусіць. Прымус скончыўся. Я зайшоў у глыбокую цвярозасць. У ёй мне спакойна. Вячэру я запіваю чорнай і гарачай гарбатай.

Легчы спаць з поўным страўнікам я не змагу. Іду прайсціся. Заўсёдны маршрут: ад гатэля да цэментэрыі, калі па-нашаму — да могілак. Там мне зусім спакойна пад зялёнымі ліхтарамі. Месячнае святло. Даты. Прозвішчы. Кветкі. Каменныя анёлы. Ціша. Мёртвая ва ўсіх сэнсах ціша. Толькі мора несупынна шэпчацца з пяском. Мора вечна жывое. Уздоўж вечна жывога марскога хвалявання вяртаюся ў гатэль.

Чышчу зубы. Апаласкваю рот. Кладуся ў прахалодныя прасціны. Чытаю паўстаронкі з «Дхамапады». З думкамі пра «Дхамападу» і засынаю, бо дзень быў цяжкі.

Спл… Чакай… Спадзяюся, я цябе пераканаў, што самая цяжкая праца на свеце — адпачываць.

# ЗМЕСТ